Няхай жыве саюз рабочых і сялян!

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ



ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ДАДАТАК ДА „БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ“

№ 4-5 (24-25) — КРАСАВІК—МАЙ 1928 г. — № 4-5 (24-25)



Вясна ў вёсцы

## ВЯСКОВЫЯ ВАНДРАВАНЬНІ

МАКСІМ ЛУЖАНІН

Цэлы дзень я утомлены йшоў,
У пылу мае рукі і ногі.
З гэтай зорнай вячорнай цішой
Супакой акрывае дарогі.

Нейк зелена зоры глядзяць,
Гэта пацеркі—месяца сьлёзы...
Пры гасьцінцы здаецца шуршаць
Маладыя лісты на бярозах.

Асядае каралямі змрок,
Льлецца песьня—вясновая радасьць.
На яе не паложыш замок,
Ёй ня трэба ні слоў, ні спагады...

Прыпаду да халоднай крыніцы...
Трэба йсьці... Хутка ноч дагарыць...
Стане ў полі вясна-маладзіца
З гладышамі зялёнай зары.

# МОЛАДЗЬ

**А. Мрый**

## I

Сьцяпан Клыга скардзіўся свайму суседу Ахрэму:—Сын у мяне, браце, не па мне пайшоў! Гляджу на яго, ды сам ня ведаю, што з яго будзе!.. Ужо гады два ці тры, як на яго хвароба гэта ўсьсела. Кніжная хвароба... І ўдзень і ўночы няма яму супакою! Уткне нос, надзьмецца, як сава, ды бубніць сабе нешта!

Ахрэм, троху кульгавы мужчына, з рэдзенькай рудаватай барадзёнкай, вельмі любіць ва ўсіх зьявах жыцьця шукаць нейкай таемнай спрунжыны. Кожны раз, заўважыўшы такую спрунжыну, ён першым чынам выказваў свае задзіўленьне словамі: На!—знаеш—на! А потым пачынаў па сваім разуменьні разблытваць хітрае пытаньне. Так і цяпер. Зірнуўшы на Сьцяпана адным вокам, а другім на яко жонку Праскуту, Ахрэм, аўтарытэтна заявіў ім:

— На—знаеш—на! А што я вам скажу? Можа ў яго тут?..

Ахрэм пакруціў пальцам каля сваёй галавы, і мужык з жонкай зразумелі яго гэст. Праскута жаласьліва заківала галавой і, паказваючы рукой на паліцу, паведаміла:

— Вунь зірні Ахрэмка! Ці бачыў ты айдзе гэта? Поўную палічку напхаў кніжкамі! І хто дае яму іх?

З нейкім жахам жанчына зірнула на бітма набітую кнігамі паліцу і дадала:

— Баюся і падыйсьці да яе! Ледзьве ліпіць! Яшчэ абарвецца ды па галаве грукне! Нахальнай сьмерцю памрэш!

— А што ён там вычытае? Толькі, на—знаеш—на, здароўе страціць, ды без галавы хадзіць будзе!

Праскута перайшла на экономічны бок справы:

— Насланьнё нейкае! Усю ночачку да трэцьціх пеўняў над кнігамі моліцца! А газы колькі зводзіць? Сьцяпан не дае яму лямпы, дык смаркачык нейдзе знайшоў, ды над ім і чытае...

Сьцяпан дадаў:

— Хацеў пабіць яго, ці па вуху заехаць, дык ня блізка. Здаровы хлапец, як вол! Хоць ашалеў ад кніжак, а бацьку не паддасца! Ды яшчэ глядзі ў суд паверне...

Ахрэм задзівіўся:

— Вось як! Я на суд не паглядзеў-бы! Я-б пазакідаў, папарваў-бы гэтае плюгаўства, а хоць з хаты прагнаў-бы! Няхай-бы не марочыў мне галавы!

— І чаму гэта кніжкі хлапца розуму арашылі!—запыталася Праскута: — Хлапец быў, як і ўсе, як і твой Даніла. А цяпер прыступу нямэ, як быццам і ня сын наш! Больш маўчыць ды пра сябе нешта думае...

Ахрэма дапытлівасьць узяла. Падышоў да лавы, узьняўся на яе, схапіўся рукамі за паліцу з кніжкамі і пачаў іх перагортваць, шукаючы ў іх малюнкі. А Сьцяпану сказаў:

— Ведаеш што? Як зірну я, што чалавек моўчкі пра сябе ў кнігу глядзіць, дык мне і боязна зробіцца. Так і здаецца мне, што нейкая нячыстая сіла ўлезла ў чалавека ды арудуе там!

Ахрэм пачаў уціскваць назад кніжкі, што ўзяў з паліцы, але закарузлыя, мазолістыя рукі ніяк не змаглі справіцца з гэтым і ад яго напружанай працы паліца, як і прарочыла Праскута, абарвалася і моцна бахнула па галаве Ахрэму. Кніжкі рассыпаліся па падлозе. Ахрэм зьбянтэжыўся.

— Праваліся ты! На—знаеш—на! Аж гуз на галаве падхапіўся! Што-ж цяпер рабіць?

Ахрэм паспрабаваў зноў прыладзіць паліцу, але Сьцяпан адгаварыў:

— Кінь ты барахло гэта! Паўлюк сам прыбярэ!

Бацька падышоў да кніжак і з нейкай агідай пачаў скідваць кнігі ў адну кучу.

II

Дзьверы адчыніліся. Увайшла зусім маладая, стрыжаная на гарадзкі манер, дзяўчына. Праскута накінулася:

— А! Зьявілася-ткі, цмыга! Цэльны дзень нячыстая сіла носіць! Мне хоць разарвіся аднэй!

Дзяўчына адбівалася:

— З хаты і носу высунуць нельга! І сьвята няма.

Ды хоць-бы шлындала я, дык-жа не! Справа ў мяне была!

— Справа ў цябе была!—перадражніў Сьцяпан сваю дачку Ганну:—Справа ў яе была? Ці чуў ты, Ахрэм? Бач, і яна ў разумныя лезе, за Паўлюком цягнецца.

Ганна заўважыла раскіданыя кніжкі і навалілася на матку:

— Нашто ты іх скінула? Чаго ты лезла туды?

— І зусім павыкідаю плюгаўства ваша!—сказаў бацька.

Ахрэм, падміргваючы адным вокам, сказаў:

— На—знаеш—на, Ганначка, гэта я няхоцьцю скінуў. Дык ты ўжо прыбяры іх, дзевачка!

Ганна пачала парадчыць кніжкі.

А Сьцяпан, глядзячы на стромкую пастаць свае дачкі, выказаў сваю думку:

— Цяпер і на баб д'ябал усьсеў! Якшалёныя пачалі насіцца. Вось маеш табе! 7 гадоў у школу цягалася, а цяпер бачыш, што з яе вышла.

— Што з мяне вышла? Розум свой маю і гэта добра!

Матка раззлавалася:

— Кніжкі чытаеш! Ад рук зусім адбілася.

Ахрэм выказаў свой погляд:

— Па-мойму, хлапца вучыць яшчэ можна, ды і то каб ня дужа багата вучыць, а дзеўку шкодна вучыць!

— А чаму дзеўку ня вучыць?—зацікавілася Ганна.

— Хэ-хэ-хэ! Чалавека, на—знаеш—на, яшчэ туды сюды вучыць! Ён-жа чалавек! А бабу, на—знаеш—на, на сваю галаву навучыш! Ад вучонай бабы дабра, браток, ня жджы!

Тут Праскута захацела падзудзіць Ахрэма:

— Што ні гавары, а бабы вас у казіны рог загоняць! Глядзі тваю жонку Хадорку ўжо ў сельсавет абралі. Ужо верадуе там.

— Ды яшчэ як верадуе!—згадзіўся і Сьцяпан.

— Хадорка мая—ня баба! На—знаеш—на! Плюю я на яе! Разлучацца надумаўся, да душы кажу вам!

III

Хадорка, жонка Ахрэма, лёгка была на памін. Нечакана, як птушка, уляцела ў хату і яшчэ з парогу запела:

— Эйш! Расьсеўся тут, як пан! Ты што-ж гэта сабе думаеш? Ідзі зараз-жа дамоў! Хату няма на каго кінуць!

Ахрэм у спрэчкі гарачыя:

— А ты, на—знаеш—на, нашто здалася! Сядзі сама ды пільнуй хаты! Гэта бабская справа!

Сьцяпан падтрымаў аратара:

— Муштруй, муштруй яе! Мацней напірай!

А не—дык вярхом паедзе!

Хадорка прыстойна трымаецца, хоць і хочацца ёй во як раўняцьці гэтых „старажымнічыкаў".

— Мне трэба ў сельсавет ісьці!—кажа яна.

— Якая мне справа да твайго сельсавету? Ты мая жонка і сядзі ў хаце і нікуды ня рыпайся!

Хадорка ня вытрымала. Зрабіла грозныя вочы, паставіла грудзі калясом і павяла атаку на Ахрэма. З практыкі ведала, што гэта павінна зрабіць уплыў. Нізкім, на два тоны ніжэй звычайнага, голасам загадала:

— Ідзі зараз-жа дамоў! Ну?

Ахрэм не здаецца:

— Чаго нукаеш? Сама ідзі, калі табе прысьпічыла, а мне і тут добра!

Праскута за Ахрэма выступіла:

— Чаго ты прычапілася да яго? Чаго яму ісьці!

Дзяцей-жа няма!

Сьцяпан моўчкі ўсьміхаецца, а потым кажа:

— Ня йдзі, браце, ня йдзі! Няхай паскача сельсаветчыца!

Хадорка і Сьцяпану ў зубы не паглядзела:

— Цябе ня пытаюць, дык і ня лезь! Звыкся езьдзіць на сваей жонцы, дык і другіх падбіваеш!

Праскута пакрыўдзілася:

— Пра сябе кажы, а мяне не чапай!

Ахрэм сьмела крычыць на жонку:

— Квактуха ты бязпісклятная! Вынасіся адгэтуль, ня дуры галавы добрым людзём!

Ахрэм лоўкім манерам, паддаўшы жульгавай нагой, выпірае яе ў сенцы і завальвае на чэп дзьверы. За імі лаянка:

— Пачакай-жа, курдупы чорт! Прыструню я цябе!

Ахрэм, як салавейка, шчабеча праз дзьверы:

— Перапёлачка мая любенькая, патрубі там самой сабе...

Ідзе, цяжка дыхаючы да лавы, садзіцца і глядзіць на ўсіх, чакаючы ад іх маральнага падтрыманьня.

Сьцяпан падводзіць вынікі:

— Лоўка ты яе адкаўбасіў! Як бомба вылецела!

А людзі брахалі, што яна цябе забівае!

Ахрэм, як певень, заходзіцца:

— Саб'ю яе на горкае яблыка! Халера—ня жонка!

Разлучуся і ўсё тут! Вазьму сабе маладую, хоць і дурную!

Ганна сьмяецца ў вочы:

— Маладая за цябе ня пойдзе!

— Пойдзе! Я чалавек, па—знаеш—на, як трэба!

У мяне ўсё ёсьць, а розуму, дык больш чым трэба!

IV

Нехта ў дзьверы стукоча. Ганна бяжыць адчыняць.

Ахрэм просіць:

— Не адчыняй! Гэта Хадорка зноў прэцца.

Ён ідзе зноў да дзьвярэй і лісліва кажа жонцы:

— Пабудзь там, ягадка! Праветрыся, галубачка!

І ў адказ за дзьвярыма чуваць голас Паўлюка сына Сьцяпанавага.

Уваходзіць шырокі ў плячох хлапец з жывымі шэрымі вачыма, курносым тварам, вялікімі рукамі і пераломным голасам. Просіць у маткі есьці. Тая дапякае:

— Вось бачыце? Цэльны дзень на хату і зірнуць ня хоча, а як дарвецца—зараз-жа давай яму есьці...

Пасьпееш! Яшчэ і сонца не зайшло! Разам будзем вячэраць!

— Мне трэба на даклад і лекцыю!..

Праскута рукі ўгору ўзьнімае:

— Хоць-бы мне калі зірнуць на гэтага даклада ды пабачыць гэту, халеру, лекцыю, што сынка з дарогі зьбівае! І памру—не пабачу!

Матка ўсё-ж такі любіць сына. Адыходзіць да печы, вымае страву і нясе на стол.

Паўлюк бярэ лыжку і пачынае хутка есьці.

Ганна таксама падсаджваецца.

— А ты чаго прымазалася?—пытае матка.—Няўжо і ты пойдзеш?

— І мне трэба быць!

Сьцяпан пачынае крытыкаваць:

— І што яны там робяць! У паветра страляюць ды й толькі! Таварышы, таварышы! Прашу слова! Бі буржуазею! Дарогу пралетарыяту!

Так кожны можа!

Ахрэм свае словы ўкручвае:

— А гавораць як доўга і як гарох сыплюць. Быў я часта ў мястэчку, дык праўду сказаць—анціpэсна слухаць! Як узьлезе каторы з іх на турбіну...

— На трыбуну!—папраўляе поўным ротам Паўлюк.

— Ат! Усё роўна! Дык як узьлезе на турбіну, дык твар, як сонца...

— Чула і я адзін раз!—кажа Праскута.—Нейкі чубаты гаварыў, што бога няма і хрысьціцца шкодна для здароў'я, а ў

царкву ні божа мой каб не хадзілі! Дык я плюнула, ды ходу адтуль...

Сьцяпан паказаў на дзяцей:

— Яны так і робяць! Як парсюкі за стол лезуць. Ільба не перахрысьціць ніхто з іх...

Ганна адказала:

— Табе спадабаецца, дык і рабі, а для нас гэта атрута народная, папоўскія цацкі!

— Ты плюгаўка яшчэ, а вярзеш усьлед за ім, як мартыха якая!

— Якая плюгаўка я? Я ўжо галасую!

— Дура, дык і галасуеш!

— Усё гэта павыдумлялі папы, кулакі,—сказаў Паўлюк, вылазячы з-за стала і зьбіраючыся ісьці на вуліцу.

Матка пажалілася:

— Вось кожны дзень так! Поп, кулак, поп, кулак! Проста ў кулак трубіць пра гэтага кулака!

Ахрэм запытаўся:

— Скажы: як патвойму—ці кулак я?

— Ты?

— Я, на—знаеш—на! Я!

— Ты? Ты—кулацкі элемэнт! Цягнеш за іх.

— Ах ты-ж халера, халера несьвянцоная! Мая жонка ў сельсавеце, ў санітарнай часьці, а я кулак? Кулацкі елемент?

— Жонка сама сабой, а ты сам сабой!—кажа Ганна.

Ахрэм хацеў іх разьбіць у мэтлахі, але людзі перашкодзілі.

V

У хату чалавек дзесяць мужчын увалілася. Усё багацеі на чале з сябрам сельсавету і самым хітрым кулаком Падарэўскім. Паўлюк пашоў да дзьвярэй.

— Пачакай, Паўлюк, да цябе справа ёсьць!—кажа Падарэўскі. Ён падыходзіць да стала, вымае з кішэні газэту і, гледзячы ўсупор Паўлюку, шыпячым, глухім ад гневу голасам пытае:

— Ты пісаў гэта?

Паўлюк супакойна сустракае ворага:

— А ты сьледчы ці што?

— Значыць ты! На вачох бачу!.. Добра-ж! Грызьню падымаеш? Усюды нос свой усоўваеш? Злымі, ваўчынымі вачыма ўсе глядзяць на яго. Як вужы сіпяць:

— Праходу, жыцьця за ім няма! На ўсіх захацеў усьсесьці! Ня доўга табе жыць—усе сулдыгі пераломяць!

Сьцяпан на сына лютым зьверам глядзіць.

— Якое табе дзела да суседзяў? Нашто ты ў газэты друкуеш? Дурыла!

— Чаго вы да мяне прычапіліся?—крычыць Паўлюк і хоча ісьці з хаты.— Няхай суд разьбярэ, хто пісаў! У суд падавайце!

— Які суд! Прыб'ем цябе, заразу, ды і ўсё тут.

— Не баюся я вас! А за пагрозу пад суд нападзеце!

Падарэўскі кажа Сьцяпану:

— Хоць не прызнаецца твой сын, а гэта ён пісаў. Тут і падпісана—Паўлюк Ражок. Хто-ж гэта, калі ня ён?

— Гавары, ты гэты самы Ражок, ай не?

— А што ён напісаў там, га?

— Няхай сам прачытае свайму бацьку, што напісаў пра добрых людзей.

— Давай прачытаю. Пабачым, што пра вас на ўвесь сьвет чутна.

Набраўшыся духу, Паўлюк прачытаў: «Кулацка-папоўская рэспубліка. У нашым Лабудзецкім сельсавеце добра жывецца ня ўсім людзям, а толькі багацеям ды папу. У сельсавет спадманам улез жулік і распусьнік Падарэўскі, які робіць усё, што захоча. Яго слухае ўвесь сельсавет.

Сабраў каля сябе хэўру кулацкую, ды кажа: Уся ўлада наша, будзем рабіць так, каб нас баяліся! Усё для кулакоў, як па маслу ідзе. Кулаком зямлю няправільна нарэзалі. Падарэўскія столькі зямлі захапілі, што з глоткі прэ. А беднякам, якім нечага есьці, нічога ня далі. Таксэма скідкі па падатку далі толькі кулаком. Таксама ім аддалі і насенную пазыку. Адным словам бедпякі нашы загаласілі і цяпер кажуць: І нашто мы яго абіралі ў сельсавет? Абралі заместа чалавека сукінага сына!»

Ахрэм не ўцярпеў:

— Ну і хват, на—знаеш—на, хто пісаў!

Як у сук уляпіў.

— Што ты сказаў?—закрычалі на яго.

— Нічога не сказаў! Толькі сказаў, што пальцам у неба папаў!—спалохаўшыся адказаў Ахрэм.

Праскута сына свайго папякае:

— Пагібелі свае хочаш? Няхай хто другі піша, а табе што? Цягацца з імі задумаў, яны-ж зьядуць цябе і костачак не пакінуць!

Падарэўскі нібы супакойна кажа бацьку:

— Мы гэтага так ня кінем! Баламуціць народ сын твой!

— Ня сын ён мне!—кажа Сьцяпан злосна.—Даўно адрокся ад яго... Гавары, Паўлюк, ты пісаў ці не? Бачыш, які сорам мне.

З надзеяй глядзіць бацька на сына і хоча, каб ён перад усімі няпраўду сказаў.

«На зло-ж скажу праўду! Пабачу, што з гэтага будзе! Што-ж, у зубы глядзець гадам?!» —думае Паўлюк і гулка, аж самому ўвушшу аддалося, як касой разануў:

— Я пісаў і яшчэ буду пісаць, а праўды дайду!

Маўчаць усе, толькі зубамі скрыгаюць. Выходзяць усе з хаты, моцна стукаючы дзьвярыма.

Ганна брата свайго адстойвае:

— Ня бойся, Паўлюк! Не паддавайся гадам гэтым! Падавяцца, пакуль зьядуць!

А бацька з маткай палахліва глядзяць на сына. Не разумеюць яны яго.

---

# РАНІЦАЙ

**С. Дзяцел**

Радзее цёмнай ночы сетка,
Па дне далін плыве туман.
Палёў шырокія палеткі
Вітае ласкавая рань.

Насустрач ціхаму усходу
Ідзе спаткацца новы дзень.
Разьліўся цёплы, пахні водыр,
Застылі ўсплёскі па вадзе.

З-за роўных частаколаў бору
Глядзіцца ласкавая сінь.
У неабдымную прастору
Гукаюць песьні далячынь.

І люба так, да сонца ўсходу
Гарыць карункамі раса,
І льлецца—льлецца у прывольле
Над нівай буйная краса.

За возам, да свайго загону,
Вітаючы ружовы дзень,
Ступой спакойнаю па гоні
Ідзе з сявенькай сівы дзед.

І жменяй поўнай буйных зернят
Ён дробам сыпле па ральлі.
А сонца выплыла і сьвеціць,
Купае ў золаце палі.

Радзее цёмнай ночы сетка,
Плыве далінамі туман.
Палёў шырокія палеткі
Вітае ласкавая рань.

# У комуне „Звезда“, на Меншчыне



У вольны час за кніжкай



У ленінскім кутку

# МОЦЬКА

**Сымон Баранаў**

Калі вы будзеце ехаць, альбо праходзіць цераз пасёлак Навадвор'е, дык будзьце ласкавы—заходзьце да старога Моцькі!

Калі вы замарыліся—адпачнеце ў яго.

Захацелі папалуднаваць— папалуднуеце, не пашкадуе вам Моцька. Прамерзьлі—Моцькава жонка, Элька, самавар паставіць вам. Моцька чалавек гэтакі: ён у людзей бывае, а людзі ў яго.

Моцька заўсёды рад людзям.

Ого, колькі знаёмых у Моцькі! Хто толькі ня ведае пра Моцьку, хто ня бываў і ня бывае ў яго.

Дык будзьце-ж ласкавы, заходзьце!

Калі вы ня ведаеце дарогі, дык запытайцеся ў малога дзіцяці: усякі стрэчны-папярэчны пакажа дарогу да Моцькі.

— Да Моцькі?.. дарогу?.. А вось проста, на цянькі каля лесу, потым цераз узгорак, пойдзеце да лагчыны, цераз бальшак—каля хмызьняку, побач з тэлеграфнымі слупамі... А там, налева— сьценка будзе на пасёлак... З далёк яшчэ ўбачыце новыя будынкі. Вось там і жыве Моцька.

— Там ужо хоць хто пакажа Моцькаву хату, толькі што адбудаваную.

Дык заходзьце-ж. Будзьце ласкавы!

## I

Раней гэта было. Тады, як Моцька яшчэ быў у карчме. Вы ня ведалі Моцькі. Вам ня было ніякага інтарасу да чалавека, які жыве ў гэтай выветранай будыніне, што выкінута за вёску, нібы вывезенае, непатрэбнае сьмяцьцё. Зусім ня прыходзіла думка аб будыніне, у якой шыбы закітованы атрэп'ем.

Які каму інтарэс быў. Клопат. Хі!

Але затое, хто ведае, хто заходзіў...

— Колькі таго Моцькі,—звычайна кажа стары Лявон, Моцькаў сусед,—колькі яго—жменя.

Заходзячы да Моцькі казаў Лявон:

— Ты, Элька, хоць-бы падкормлівала яго лепей,—штукуе Лявон, зьвяртаючыся да Моцькавай жонкі,—падкормлівала-б, авось пачаў-бы таўсьцець твой Моцька. Жывацёнак зьявіўся-б, як у вашага шафара, Моўшы.

— Так, падгладжвай яго!

Але Элька махае рукою.

— Ёсьць каго падгладжваць, вось яны,—паказвае на малых галапупцаў, на трохгадовую Сару, на гадовага Шлёмку.

Моцька-ж у гэты час нічога ня кажа

Ён нібы толькі што вылез з саду, дзе за ім ганяўся вартаўнік—моргае вачыма, маўчыць Моцька.

Добры чалавек Моцька. Ой, які добры!

— Золата, можна сказаць,—кажуць крывалупаўцы,—Моцька—золата, а не чалавек.

— Яй-права!

Калі вы, незнаёмец, пападаеце да Моцькі і калі вам патрэбна яго ўслуга, дык толькі намякніце і Моцька вас зразумее.

— Ха-ха-ха-а,—расчыняеце вы рот, альбо праціраеце кулаком вочы, і ён— разумее, што вы хочаце спаць.

І тады, пакруціўшы ў пальцах тры калівы чорнай бародкі, Моцька пачынае клапаціцца аб вас.

— Элька,—кліча ён тады, сваю жонку,—Элька, пасьцялі чалавеку.

І Элька нясе на аберучках палосістую падушку, якая распората ў адным месцы па шве, адкуль вытыркае дробнае курынае пер'е. Яна кладзе яе паважна на цыратовую, абшарпаную канапу; штурхае з большага пад яе перапелістыя бакі і кажа:

— Адпачывайце з дарогі. Кладзецеся, адпачывайце! Я дзяцей супакою: ціха будзе.

Моцька чалавек гэтакі. Ён не пашкадуе пераначаваць чалавеку. Цыратовая

канапа для гэтага, можна сказаць, і служыць.

Вось чаму, ня толькі ваколіца ведае Моцьку, а шмат хто—зусім з пабочных людзей—ведае. Вось чаму.

— Ну, як жывецца?—часамі запытае падарожнік у Моцькі.—Як крэпішся Моцька?

І Моцька, нібы пагушкаўшы на далоні, зважыўшы сваё становішча адказвае:

— Эт, жывецца... Хто няйдзе, дык наступіць нагою... Жывецца...

І зусім так. Моцька не зайздросьціць ніколі другім. Ён чалавек незайздросны. Крыўдзіць нікога ня ўмее. Вось які Моцька.

— Мяне-б не чапалі,—кажа ён,—а я... а я ўжо нікога не зачаплю.

Але-ж бывае зусім наадварот: чым больш не чапаеш, тым больш цябе чапаюць.

— Гэтак ужо яно зроблена на сьвеце,—кажа Моцька.

II

У Моцькі ў хаце, над сталом, вісіць лямпа. Дарма сабе, што лямпа не запальваецца—нават і па суботах. Няхай сабе, што не міргае яе разгатае полымя.

Затое Моцька памятуе, як гарэла лямпа ў час яго вясельля. О! Ён памятуе, і нават добра ўяўляе тое сьвятло лямпы. Хоць гэтак сама, як і тады—змрок клаўся на сэрца, але сьвятло лямпы,—хоць штучнае сьвятло пачуцьці яднала. І гэта было толькі на адзін момант, тады.

— Даволі... Шмат нават і гэтага...—Незразумелы зык кранаў сэрца, і Элька мусіць за гэтым плакала.

А назаўтра...

— Вельмі ўжо яе нутро, лямпіна,—кажа Моцька,—шмат патрабуе,—хунт на вечар.

— Куды лепш ужо пяты нумар,—кажа Элька.—На тыдзень хапае хунта.

Вось за гэтым і не запальваецца Моцькава лямпа ад яго вясельля.

Цяжка вісіць яна над круглым сталом. Падарожны чалавек ляжыць цяпер на канапе і глядзіць на яе пунцовыя, хмурныя рубцы. Ён ляжыць і разважае аб ёй, аб лямпе пятнаццатага нумару.

— Каб адарвалася—у дробныя цурачкі напэўна рассыпалася-б,—думае падарожны госьць. Але за тое лямпа нічога аб госьцю ня думае. Яна вісіць, як ні ў чым ня бывала. Цяжка вісіць. І будзе вісець, глядзець, фанабэрыцца перад Эльчынай камодаю, якая стаіць тутака ля сьцяны.

— Дзьве раўналежныя рэчы: камода і лямпа. Лямпа і камода—на ўвазе ў Моцькі.

Як адна так і другая—старыя ўжо. Ножкі даўно паадкідаліся ў камодзе. На падкладках стаіць.

Эльчына камода, ня то што простая камода, а з буфэтам.

— Дзе шклянка?—пытае Моцька ў Элькі,—напіцца няма чым.—Ён ведае, што шклянка... дзе-ж ёй быць, калі не ў камодзе ў буфэце; ён ведае... Але Моцька хоча, каб Элька сказала гэтае слова—«у буфэце».

Моцька разумее, што і ён—хоць у сябе дома, а—людзі. Ён мае волю над шклянкай.

Камода дасталася Эльцы, ад яе маткі, як пасаг. Эльчына матка атрымала гэтую камоду ад сваей маткі, таксама тады, як ішла замуж.

Вось чаму паадкідаліся ў камодзе ножкі; вось чаму даўно скрышаны верхнія выразаныя цацкі ў буфэце і таксама выбіты ніжнія шыбы, праз якія шмыгае рука малой Сары. Ня толькі камода з лямпаю, гадзіньнік таксама ёсьць у Моцькі. Над камодаю, зусім сымэтрычна, вісіць ён. Гадзіньнік ня йдзе цяпер. Стаіць. І калі Моцька п'е гарбату—часта вырываецца думка:

— Ой загарак, загарак! — разважае Моцька гледзячы ў адно месца.—Ой, мой ты загарак, як няма за што цябе папраўляць.

— Няма,—глытае Моцька чай, адхінуўшыся да арэхавых абручоў свайго крэсла, што скрыпіць пад яго постацьцю.—Няма!

А гадзіньнік, Моцькаў загарак, чатырохкантовы сьценны, нібы хоча заківаць у гэты момант зьвіхнутым маятнікам, хоча ўсьміхнуцца, адказаць, што ён зусім разумее добрага Моцьку.

— Пачакаю... Вытрымаю...—Шэпча гадзіньнік усёй постасьцю вішнева - здрапанай хварбы.—Пачакаю.— І Моцька разумее яго, як сам сябе.

— Ото ўжо хіба няхай прыдзе вясна,— развражае ён далей,—вясною хіба, разам з кузуркамі, абудзішся і ты, маятнік.

Калі Моцька кажа аб вясьне,—ён кажа аб сваім багацьці. У людзей вясною голад, а ў Моцькі наадварот.

— За цэлую зіму, за халодную зіму, хто не назьбірае ануч? Хто? Поўныя запечкі і ў крывалуцкіх баб і ў падгацкіх.

У каго няма ануч па вясьне?

Моцька радуецца за вясну.

— Хіба толькі,—развражае Моцька,— Янкель лошанскі наедзе, на ўзахапкі зрабіць... Хіба толькі...

— Трэба будзе наўперад падумаць аб гэтым,—вырашае Моцька. Яшчэ тады вырашае, калі мяцеліца круціць, калі самая—ніштo гульня лютаўскай завірухі.

Ого, вясна для Моцькі! Найшчасьлівейшая пара году!

І сапраўды, толькі вясною бывае самы найбольшы збор ануч у Моцькі.

III

— Элька! Бадай ты спрахла з гэтаю Элькаю,—кажа Моцька.—Элька, дзе ты забавілася!

І Элька разумее Моцьку.

Калі ён кажа: «Каб ты спрахла», дык гэта ў яго вельмі добры настрой. Гэта значыцца Моцька сёньня ўтаргаваў паўтары капейкі. Ён прадаў Аўдоцьці фунт газы і кусок зялёнага мыла «Блімовіча».

Не без таго-о: Аўдацьця напавер узяла сваю пакупку. Але гэта хіба ня усё роўна? Моцька ведае, што яна аддасьць. Абы чым, але аддасьць.

Ён тамсама ведае, што Аўдоцьця прыдзе да яго, каб яшчэ ўзяць напавер. Моцька за гэтым адвёў у сваёй вузкай кніжцы старонку, на якой і накрамзоліў: «Аўдоцьця, Ярэмава жонка, узяла фунт газы, кусок мыла—гэта на трынаццаць з палавінаю».

Моцька гэтакі. Ён чужога не хоча.

— Няхай мяне сударгі возьмуць, клянецца Моцька,—мне непатрэбна чужое. І яму верэць. Усе крывалукаўцы верэць. Падгацькаўцы верэць. Дзе не павярнецца Моцька на сваім белым кані, у якога сіняю абалонкаю зацягнуты вочы, дзе не павернецца—усюды верэць Моцьку. Таргуюцца нават мала з ім.

— Ці не паскупееў ты,—кажа падгацкая Вульляна,—нешта ты, Моцька, мала даеш. Гэта-ж цэлае бярэма ануч, а ты толькі адзін тузін... Накінь што-небудзь. Іголак хоць з пару, ці што?

І моцька накідае. Дастае тонкую іголку і накідае Вульляне на тузін белых гузікаў. Чаму якраз тонкую іголку? Грубыя іголкі ў вялікім ходзе. Іх толькі Моцька можа прадаваць. Імі ён накідаць на прадажны тавар ні ў якім разе ня можа.

Вельмі ўжо вялікі попыт на тоўстыя іголкі ў падгацкіх баб.

— Моцечка, даражэнькі, мне... мне... —шпілек дай! Дай!—Пішчаніцаю лезуць да Моцькі дзеці. Вось і анучы, вось і яйцо... Дай, Моцечка, шпілек!

І дзеці тычуць анучы, Моцька дае шпільку. Але гэта ў першы раз толькі гэтак. У першы раз могуць ашукаць дзеці Моцьку.

Адным словам, калі Моцька ад'едзецца і выпадкова пачне ўтоптываць анучы... ...толькі тады ён заўважыць, што дзеці напхалі яму крамных ануч. Крамныя анучы вельмі дрэнна збываюцца. Моцьку клопат патрэбен, каб збыць крамныя анучы.

Не без таго, ён таксама абкруціць іх стусам зрэбных і збудзе. Не без таго.

Але затое потым ужо дзеці нізавошта не ашукаюць Моцьку, не пажывяцца.

Па аднэй кожную перабярэ Моцька анучы, пакуль класьці іх на воз.

IV

Колькі гора, колькі клопату!

Моцька ў вялікім няшчасьці.

Плача малая Сара. Расплакаўся таксама і Шлёмка. Элька супакойвае дзяцей. Але-ж усё роўна. Цэлы вэрхал, усё роўна ў Моцькавай хаце.

— Дзесятка ня маеш права, карабка аднаго ня маеш права, аднэй сярнічкі— ня толькі што—ня маеш права.—Гэтак крычыць на Моцьку валасны старшыня Гарбуз.

Гарбуз—гэта які жыве за дзьве вярсты ад Моцькі, на хутары. Які трэці год старшынёю ў Падгацкай валасьці. Ён цяпер прыехаў да Моцькі ў хату і крычыць на яго на чым сьвет стаіць.

Моцька, ня маючы на запалкі патэнту, учора езьдзячы, зьбіраючы анучы, вазіў запалкі з сабою. Ён з нячэўку накінуў на кусок мыла падгацкай Тэклі,—накінуў адзін карабок за конскі хвост. Вось загэтым і прыехаў Гарбуз да Моцькі.

— Сто рублёў штрафу, альбо месяц вастрогу,—з кулакамі кідаецца Гарбуз.— Разумееш, Моцька, што такое вастрог?— тыцкае ён чуць ня ў Моцькаў нос.—Разумееш?!

І Моцька зусім разумее.

— Элька!—моргае ён на жонку,—Элька!—І тая здагадваецца, падыходзіць да камоды. Яна адчыняе яе і нібы-та порацца, чагось шукае ў ёй. Гарбуз гэтага не заўважвае. Ён не заўважвае, але толькі садзіцца за стол і больш мягчэйшым тонам кажа:

— Так, так—сто рублямі пахне.

— Н-наляцеў, Моцечка,—расхінае ён кніжку ў чорных абкладках, як ні ў чым ня бывала.—Н-наскочыў,—перагортвае ён лісткі кніжкі; зьбіраецца апісваць Моцькаву камоду, лямпу, гадзіньнік і нават перапелістую падушку.—Н-наскочыў!

Але праходзіць некалькі хвілін, і Моцька, стоячы па сярод хаты, блытаецца пальцамі ў сваёй барадзе. Элька цяпер стаіць каля стала. У хаце ціха цераз некалькі хвілін. Дзеці, Сара і Шлёмка, ня плачуць, а супакоіліся і глядзяць на рыжы твар Гарбуза. Зісум ціха ў хаце.

Толькі і чуваць, як брынкоча на шыбе тоўстая першая веснавая муха, ды Гарбуз адсьдзімае—сербае з ісподка каламутную каву.

Вось яно сёньнешнее Моцькава гора. Ой, якое вялікае няшчасьце! Да чаго ўжо ўеўся ў Моцькавы косьці гэты Гарбуз.

— Няхай-бы яны праз бок вылезьлі ці што,—кажа Моцька тады, як Гарбуз мінае яго карчму.—Вобмагам каб вылезьлі.

— А ўсё цераз Тэклю,—злуе Моцька, ходзячы то ўзад, то ўперад па хаце.

— Накінь, накінь—дражніць Моцьку Тэкля. Мо-о-тачка, накінь карабок запалак... Вось каб цябе вопрамецьцю... Вось табе і Мо-о-тачка.

І Элька пачынае разважваць свайго Моцьку.

— Едзь заўтра... Цяпер вясна... Акрэпімся. Акрэпнем сяк так...

— Ці ня праўда, Моцька?—зьвяртаецца Элька,—а ўсё-ж такі ён ня вельмі зайздросны: на пяці рублёх згадзіўся. Ці ня праўда?

— На пяці, на пяці,—пяць яму штыхаватых,—выходзіць Моцька з хаты, бразгаючы моцна дзьвярыма.

Гаспадарка ёсьць у Моцькі: карова, той самы белы конь і адна сівая авечка.

Моцькава карова вельмі брыкаецца. Колькі набярэцца Элька клопату, пакуль падоіць карову.

— Стой, Пралеска, стой,—перш просіць Элька карову, а потым, як выйдзе з цярплівосьці б'е яе па кумпяках дручком і таксама, толькі ня просіць, а крычыць: «Стой, стой, воўчае мяса».

Моцька некалькі разоў зьбіраўся, каб прадаць Пралеску, але за яе густое малако, за яе малако з густам, як кажа Моцька,—ён ня можа рашыцца на продаж.

— Хіба ўжо ўвосень,—адкладвае ад вясны да восені, а там ад восені і да вясны.—Хіба ўжо...

А карова, як брыкалася, так і брыкаецца. Як абірала дручком Элька карові-

ны лапаткі, так і абірае. Вось, што зна чыць малако з густам.

У Моцькі—у яго гаспадарку ўваходзіць града агароду. Праўда, Элька загадвае гэтаю градою: агуркі на ёй садзіць. Але-ж усё роўна града лічыцца на спіску за Моцькам. Арэнду пану Зыгманту носіць Моцька, а ня Элька.

Абое яны вельмі любяць гэтую граду. Полюць удваіх. Агуркі выбіраюць.

— Ой, каб яшчэ хоць адну гэтакую граду,—часта мараць Моцька з Элькаю.— Прадаваць можна было-б агуркі. Хлеб можна было-б купляць за агуркі.

VI

Кожны вечар, няма таго вечару, каб ня зьбіраліся да Моцькі. Крывалукаўцы прыходзяць пачуць навіны ў Моцькі. Падгацькаўцы прыходзяць... А то падарожныя начуюць. Кожны вечар стаіць гоман у Моцькавай хаце. Дыму круціцца, хоць ты сякеру вешай.—Гэта ад люлек, ад папярос. Не ад куплёных папярос—ад сваіх, уласных, якія закручаны ў кніжную грубую паперу.

— Калі я не пабуду адзін вечар у Моцькі,—гэтак пачынае падгацькаўскі Янук,—дык нібы рупіць штось, дрэнчыць на сэрцы.

І Моцька рад сваім суседзям.

У гэтыя вечары доўга заседжваецца Моцькава, як кажуць, хэўра.

— Дык раскажы, Моцька, што-небудзь,—зьвяртаецца хто-небудзь з хэўры—раскажы! І Моцька пачынае. Ён ня будзе далёка лазіць, вышукваць факты. З свайго жыцьця мае столькі фактаў, што іх хопіць на кожны вечар. Абы слухалі.

— Я быў тады хлапчуком,—кажа Моцька.—Порсткім хлапчуком, гадоў адзінаццаць мне было. Аднойчы гэта было. Цэлы дзень мы з бацькам зьбіралі гальлё. Зыгман даў права назьбіраць сухога ламачча. Бацька яму за гэта боты пашыў.

— Сутоньвалася, калі я ехаў да дому. Вёз воз сукоў. Бацька пайшоў на цянькі і я ехаў адзін. Прамінуў ужо, як раптам заўважыў: пуга. Так яно і ёсьць, пуга. Я саскочыў з воза і падняў хоць і схвостаную, але досыць з добраю стусінаю пугу.

І Моцька расказвае, а суседзі слухаюць.

Яны зрэдку аддзімаюць, студзяць гарачы, засаладжаны сахарынаю, чай, а пастудзіўшы асьцярожна датыкаюцца, мачаюць кончыкі сваіх вусоў—п'юць, смакуюць, ахкаюць.

— Што-што, а стусіна, вельмі добрая была,—кажа Моцька, адхлябнуўшы з кубка,—дубовая стусіна.

І ён расказвае ўсё папарадку. Моцька ніводнага слова не прапусьціць. Моцька чалавек гэтакі. А здарэньне з Моцькаваю знаходкаю—з пугаю, скончылася зусім нечаканым вынікам. Пугу, як потым выявілася, згубіў местачковы ураднік Іларывон.

— Зладзей! абармот! валацуга!—аддавай пугу,—гэтак заявіў Моцьку Іларывон, калі даведаўся і прыехаў за пугаю. Бацька таксама казаў: «Аддай, Моцечка, аддай пану стусіну». Але Моцька закардыячыўся. Гэтакі ўжо ён быў у дзяцінстве.

Калі людзі краталі яго пачуцьцё—ён тады забываўся.

— Н-не-аддам я пугі!—так адказаў дзіцячы розум, крышачы стусіну на дробныя цурачкі перад Іларывонам.—Не аддам!

І тады падаў Іларывон у суд. І Моцькаў бацька заплаціў рубель судовых страт, ды поўрубель за пугу.

VII

. . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . .

— Прайшла хвіліна,—кажа Моцька,— ня вернеш. Другая займае яе месца. Адным словам учарашняя субота, кажа ён да Элькі,—ня вернецца. Як ні круці, а такой раніцы з туманам, альбо такога заходу сонца—ня будзе. У наступную суботу ў момант заходу, на сонцы не зьявіцца палоска хмары,—тая палоска, якая ў гэтую суботу падпяразвала сонца. Ні за што ня зьявіцца.—І Элька радуецца за Моцькаў розум.

— Мой Моцька,—кажа яна да Гальляшовай Макрыны,—мой Моцька, мая суседка,—да веку, каб гэтакія людзі. Мне не патрэбна за маім Моцькам варочаць мазгамі.

— Розум!—вось хто мой Моцька.

А Моцька тым часам зусім упэўнен у сваім розуме. Ён, як мае быць, упэўнен цяпер, што ануч ужо вазіць ня будзе. Так, нябудзе.

— Каапэратывы няхай царымоняцца з імі, з анучамі,—кажа Моцька.—Каапэратывы няхай, а ня я. Яны, можна сказаць, на гэта зроблены. Вось як.

А каб даказаць гэтую царымонію на факце, каб спагнаць на анучах сваю злосьць, Моцька вытрасае, дастае з усіх куткоў—ды так, што ніводная не захаваецца ад яго вока. Зьнячэўку Моцька нават заграбае Элькіны падношаныя зрэбныя панчохі і, усё гэта стахторыўшы ў адзін стус—вязе да навадворкаўскага каапэратыву.

— Вось яны,—кідае ён з вейкаю аблегчанаю адвагаю ў куток. — Паважце, ягомасьць крамар, ды цукарку там... за гэтае «дабро».

Не без таго: назаўтра Элька трошкі кляне Моцьку. Яна здагадваецца, што панчохі яе паехалі і не вярнуліся разам з непатрэбнымі трантамі. Яна трошкі сварыцца. Але якая там сварка! Для Моцькі гэткая сварка—сьмех.

Як пугаю па вадзе, гэтакая сварка для Моцькі. Абы злосьць была спагнана на анучах. Вось што галоўнае для яго цяперашняй натуры.

— Ну, то не вярнуцца-ж... пакінь бурваць,—супакойвае ён Эльку.—Новыя куплю, крамныя. У пяту будзе мякка.—Пакінь.

І Элька налівае Моцьку шклянку салодкага малака.

Чаму цяпер Моцька ануч ня зьбірае? Што і як ператварыла яго натуру?

— Сьвет другі пайшоў,—адкажа Моцька на няхітрыя пытаньні.

— Анучы зьбіраць—нэндзу зьбіраць. Вось так і чэрпаць яе, нэндзу, поўнымі прыгаршчамі.

— Другі, зусім другі сьвет. Шпарчэйшае жыцьцё пайшло. Вось як!

І Моцька звычайна расказвае цяпер суседзям па пасёлку, як гэта ўтварыўся другі сьвет.

— Не агледзеўся, браткі!—пачынае так, як і некалі ў карчме. Але толькі з большаю астаноўкаю, з больш завостранымі, абкругленымі словамі.—Учора, здаецца, было. Сон быў. Вось як. Ня верыцца часамі. Учора, здаецца, вазіў, зьбіраў анучы. Учора Элька поркалася над аднэй градою...

— Іларывон... Зыгман... Гарбуз...—учора былі.

— Ды ці мала што было! Ведаю толькі тое, што камарамі дзвынкалі ўчора незразумелыя гукі. А там пажары, крыкі, енкі...—усё гэта было ўчора. Нібы сон: было і прайшло.

— Прайшло і ня вернецца... Як і пасак той, што падпераззваў заход у мінулую суботу.

— Ні за што ня вернецца.

Гэтак разумее, гэтак адкажа цяпер Моцька на пытаньне аб другім сьвеце, аб другім жыцьці.

———

Дык будзьце-ж ласкавы, калі будзеце ў тым баку, дзе жыве Моцька,— будзьце ўжо ўважлівы—заходзьце.

Ніколі не адмовіцца Моцька прыняць вас. З ахвотаю будзе расказваць пра сваё жыцьцё. Новае будзе апавядаць здарэньне. Цяпер іх куды шмат больш знойдзецца. Моцька будзе апавядаць цяпер не пра пугу, а пра будыніну.

— Ну, дык не забывайцеся!..

— Моцька чалавек гэтакі...

Ён можа і закрыўдаваць, калі даведаецца, што вы, ды яшчэ можа яго стары знаёмы, абышлі Моцьку.

Заходзьце, а то яй-права закрыўдуе.

# Вершы Яўхіма Кохана

## ЧУЦЬ ЗАРА...

Чуць зара акрывавіць прасветлены ўсход
І спружынавы выбухне шчэбет
Птушак—звонка-вясёлых істот...
Як патухнуць ліхтарыкі ў небе—

Зашчамляю ў аглоблі буйнога каня
І з драбінамі прэч за вароты.
Ўсё бывай! Толькі вецер цяпер мне радня,
Вецер вольны—мая істота.

Расхвалёваны пыл, ляскатальны свой сьмех
Рассыпаюць палеткам драбіны.
Гэта родная шыр мой ласкавіць разьбег,
Шчыра цешачы ўзьлёт свайго сына.

Конь узьвіхраны скача, імчыцца галеп,
К сэрцу плыніць нязнаная радасьць.
І схіляю я ветліва месячны лоб
На вітаньне радзімых прысадаў.

Дальш лугі... О мая русакудрая даль
І маё палявое раздольле!
Усё зьліваецца з усім, і імчацца ўсё ўдаль
І надыхацца пахам даволі.



Ворыва пачалося

## Нехта буйны і раскованы...

Нявідочна чырвань захад,
Капае на сад,
Сыпле там суніцы-ягады
Ўсюды надаўгад.

Плешча сьпевамі вясковымі
Ветрык над ракой.
Нехта буйны і раскованы
Глушыць мой спакой.

І драбінны лёскат церніцы
Заглушыў уздых.
А што мілае ня вернецца,
Толькі і бяды.

Я сустрэўся з днямі новымі
На сваім жыцьці...
Гэй, ты, сонца, над галовамі
Пекней зіхаці!

Што спусьціла кучаравую
Галаву сваю
На лугі квяціста-травыя,
На зямлю маю?

Не пара яшчэ спачынкамі
Песьціцца табе,
Бо наведаем упынку мы
Ў залатой сяўбе.

Бяз упынку павясковаму
Сьпеў отруменіць над ракой...
Нехта буйны і раскованы
Глушыць мой спакой.

Вёс. Навадворцы
на Случчыне.

# МАКСІМ ГОРКІ

## М. Р.

Споўнілася 60 год з дню нараджэньня і 35 год літаратурнай дзейнасьці вялікага мастака словы расійскага пісьменьніка Максіма Горкага.

Максім Горкі (сапраўднае прозьвішча яго Аляксей Пяшкоў) радзіўся ў Ніжнім-Ноўгарадзе. Бацька яго быў рабочы (абойшчык) і памёр тады, калі сын быў зусім маленькі. Хлопчыка тады стала гадаваць баба па мацеры. Гадаваўся ён у страшнай бядноце, жылі яны амаль што старцамі—зьбіралі на сьметніках анучы. У 9 год Аляксея аддалі вучыцца за шаўца. Адтуль ён уцёк. Пасьля пачаў вучыцца ў рысавальшчыка, пасьля ў багамаза і інш. У 15 год ён пакінуў свой горад і рушыў у Казань. З гэтага часу пачынаецца яго брадзяжнае юнацтва. У гэты час ён працаваў пекарам, маляром, нагрузчыкам, чорнарабочым. У гэты час брадзяжыў па ўсёй Расіі, абыйшоў пехатой усе паўдзёвыя яе вобласьці.



За ўвесь гэты час ён шмат чытаў, імкнуўся да асьветы. І пачаў пробаваць пісаць. У 1892 годзе было надрукавана яго першае апавяданьне «Макар Чудра», Горкаму тады было 24 гады. Пасьля таго, неўзабаве зьявіліся ў друку больш яго творы, і слава яго пачала расьці. За некалькі год ён стаў адным з самых вядомых расійскіх пісьменьнікаў.

Максім Горкі пачаў зьбліжацца з рэвалюцыйнымі арганізацыямі і прыняў удзел у іх працы. У 1901 годзе ён увайшоў у члены сацыял-дэмакратычнай партыі і пасьля расколу увайшоў у бальшавіцкую фракцыю. Тады некалькі разоў сядзеў у турмах за рэвалюцыйную дзейнасьць. Пасьля 1905 году некалькі год жыў у Італіі. Прыехаўшы ў Расію, пачаў выдаваць часопіс «Летопись» і ўжо ў часе рэвалюцыі газэту «Новая Жизнь». Цяпер, з-за дрэннага стану здароўя, жыве ў Італіі.

Творы Максіма Горкага, як яны пачалі зьяўляцца ў друку, зьявіліся як-бы нейкім сьвежым ветрам, які асьвежыў літаратуру, асьвежыў думку. Яго першыя апавяданьні з жыцьця басякоў былі зусім новымі ў літаратуры. У той час ён выводзіў гэрояў моцных, сьмелых, з цьвёрдаю воляй.

У яго творы „Песня о соколе“ раненны сокал узьлятае, каб хоць яшчэ раз пабачыць сонца. І разьбіваецца на сьмерць. Але гэтае сьмелае жыцьцё лепш поўзаньня вужакі. Канчаецца твор словамі: «Безумству храбрых поем мы песню».

У другім пэрыядзе творчасьці Максіма Горкага вызначыўся паварот ад адзіночак-гэрояў да калектыву. У гэты час напісаны аповесьці—«Мать», „Враги“. Гэтыя творы даюць права назваць Максіма Горкага першым пралетарскім пісьменьнікам.

Жывучы цяпер у Італіі ў невялікім горадзе Сорэнто, Максім Горкі трымае жывую сувязь з Савецкай Расіяй. Ён атрымлівае амаль што ўсе часопісі і шмат газэт з Расіі. Ён атрымлівае лісты ад тысячы селькораў з самых глухіх куткоў Расіі. І адказвае на гэтыя лісты. З радасьцю глядзіць і перажывае будаўніцтва новага жыцьця ў сваёй краіне, у тэй краіне, у якой ён у дзяцінстве пазнаў гэтулькі гора

# ЕДУЦЬ...

## Максім Горкі

Дзьме парывамі моцны вецер з Хівы, б'ецца ў чорныя горы Дагэстану, адбіты, падае на халодную ваду Касьпія, разьвёў, ля берагу, вострую, кароткую хвалю.

Тысячы белых узгоркаў высока ўзьняліся на моры, кружацца, скачуць,—нібы растопленае шкло забіяцкі кіпіць у аграмадным катле; рыбакі называюць гэтую гульню мора і ветру—«таўкатня».

Мусьліновымі аблакамі ляцяць над мо-

рам белы пыл, абсыпаючы белую шкуну*) з дзьвюма мачтамі, яна ідзе з Пэрсіі, ад ракі Сэфідруда ў Астрахань, гружана сухімі фруктамі—кішмішом, урукам, шапталой;—на ёй едуць чалавек сто рыбаловаў з «Божага промыслу», усе—верхня-волскія лясныя мужыкі, здаровы, літы народ, апалены гарачымі вятрамі, прасолеўшы ў горкай вадзе мора, барадатае, добрае зьвяр'ё. Яны добра зарабілі, рады, што едуць дадому і важдаюцца на палубе, як мядзьведзі.

Скрозь белыя рызы хваль прасьвечвае, дыша зялёнае цела мора; шкуна рэжа яго вострым носам, як плуг зямлю і, да бартоў хаваючыся ў сьнягі кудравай пены, мочыць у халоднай васеньняй вадзе косыя клівэры.

Ветразі надзьмуліся клубамі, трашчаць на іх латкі, скрыпяць рэі, туга нацягнены такелаж струнна гудзе,—усё вакол напружана ў імклівым палёце, па небе таксма імчацца аблокі, між імі купаецца срэбранае сонца; мора і неба дзіўна падобны адно на другога,—неба таксама кіпіць.

Сярдзіта сьвішчучы, вецер разносіць па моры галасы людзей, густы сьмех, словы песьні,—яе даўно сьпяваюць, але ўсё яшчэ ня могуць паладзіць дасьціпна, як сьлед; вецер гоніць у твары сьпевакоў салёны, дробны пыл, і адно зрэдку чуцён надарваны голас жанчыны, ён цягуча і жалобна выкрыквае:

— Зьмеем вогненным...

Соладка і густа пахне сытым уруком,**) нават моцны пах мора ня можа забіць гэты водар.

Ужо мінулі Уч-касу, хутка будзе Чачэнь-востраў, месцы з даўных знаёмыя расейцам,—адгэтуль яшчэ кіяўляне хадзілі грабіць Табарыстан. З левага барту ў празрыстай сіні восені зьяўляюцца і зьнікаюць цёмныя горы Каўказу.

Каля грот мачты, прыхіліўшыся да яе шырокаю сьпіною, сядзіць асілак-хлопец у белай палатнянай сарочцы, у сініх пэрсідзкіх портках, безбароды, бязвусы; пухлыя чырвоныя губы, блакітныя дзіцячыя вочы, вельмі ясныя, п'яныя маладою радасьцю. На каленях яго ног, шырока раскінутых па палубе, лягла гэтакая-ж як ён вялікая і грузная маладая баба—рэзальшчыца, з чырвоным ад ветру і сонца, шурпатым, у лішаёх, тварам; бровы у яе чорныя, густыя і вялікія, нібы крыльлі ластаўкі, вочы сонна прыплюшчаны, галава стомлена адкінена цераз нагу хлопца, а з фалдаў чырвонай, рашпіленай блюзкі падняліся цьвёрдыя, як з касьці рэзаныя, грудзі, з дзявочымі саскамі і блакітным дасэнем жылак вакол іх.

Хлопец палажыў на грудзі яе шырокую, чорную, як чугун, лапу доўгае вузлаватае рукі, па локаць голай і цяжка гладзіць дзябёлае цела жанчыны; у другой руцэ ў яго бляшаная конаўка з густым вінам,—кроплі віна падаюць на белую грудзіну яго сарочкі.

Каля іх зайздрасна кружацца людзі, прытрымліваючы шапкі, якія зрывае вецер, зашпільваючы адзежу і прагавітымі вачыма абмацваюць раскашэленую жанчыну; цераз барты,—то справа, то зьлева,—заглядваюць касматыя, зялёныя хвалі, у пярэстым небе імчацца аблокі, крычаць ненасытныя чайкі, васеньняе сонца як-бы скача па ўсьпененай вадзе—то апране сіняватымі ценямі, то запаліць на ёй самацьветныя каменьні.

Людзі на шкуне крычаць, сьпяваюць, сьмяюцца, на кучы мяшкоў шапталы ляжыць вялікі бурдзюк*) кахэцінскага віна, каля яго шумна труцца аграмадныя барадатыя мужыкі: усё мае старажытны казачны выгляд,—успамінаецца падарожжа Сьцяпана Разіна з Пэрсыдзкага паходу.

Пэрсы-матросы, апраненыя ў сіняе, кастлявыя, як вярблюды, папрыяцельску вышчарыўшы жамчужныя зубы, глядзяць на вясёлую Расею,—у сонных вачох людзей Усходу ціхенька тлеюць незразумелыя ўсьмешкі.

*) Невялікі карабель з ветразямі.
**) Паўднёвыя фрукты.

*) Скураны мяшок.

Растропаны ветрам пануры стары з крывым носам на махнатым твары ведзьмара, праходзячы паўз хлопца і жанчыну, спатыкнуўся аб яе нагу, прыпыніўся, не па старэчаму моцна ўзмахнуў галавою, закрычаў:

— А, каб цябе разарвала! Чаго на дарозе лягла? Бессаромная храпа, агалілася як,—цьфу!

Жанчына і не паварушылася, нават не расплюшчыла вачэй, адно губы яе ледзь уздрыгануліся, а хлопец пацягнуўся ўгару, паставіў конаўку на палубу, палажыў і другую руку на грудзі жанчыны і моцна сказаў:

— Што, Якім Пятроў, зайздрасна? Ну, марш, бяда міма! Не ўглядайся, ня мучся дарэмна! Не твайму зубу цукер есьці...

Прыпадняў лапы і зноў апусьціўшы іх на грудзі жанчыны, пераможна дадаў:

— Усю Расею выкармім!

Тут жанчына ўсьміхнулася паволі і ўсё вакол раптам нібы глыбока ўздыхнула, прыпаднялося як адны грудзі, разам з шкунай, з усімі людзьмі, а пасьля аб борт шумна далася хваля, абкрапіла ўсіх салёнымі пырскамі, абкрапіла жанчыну; тады яна, ледзь расплюшчыўшы цёмныя вочы, паглядзела на старога, на хлопца— на ўсё—добрым зіркам і, ня сьпяшаючы, накрыла цела.

— Ня трэба!—сказаў хлопец, адгортваючы яе рукі.—Няхай глядзяць! Не шкадуй...

На карме мужыкі і бабы гуляюць скакавую, малады голас, ахмельваючы ўсіх, выкідвае.

— Мне не нанно богачества твово,—
Не мілее оно милого мово...

Стукаюць па палубе абцасы ботаў, нехта ухае, нібы аграмадны філін, нібы зьвініць трохкутнік, сьпявае калмыцкая жалейка і, узыходзячы ўсё вышэй і вышэй, жаночы голас задорна выводзіць:

— Воют валкі в поле—
С голодухі воют;
Вот-бы свекра слопалі,—
Он этого стоит!

Рагочуць людзі, нехта, глушачы ўсё, крычыць:

— Ці добра, снахачы?!

Вецер сее па мору сьвяточны сьмех.

Вялікі хлопец пагультайску ўскінуў на грудзі жанчыны полу халата і, задумённа выкаціўшы круглыя дзіцячыя вочы, гаворыць, гледзячы наперад:

— Прыедзем дадому—разгорнем справы! Эх, Мар'я, моцна разгорнем!

Вогненна-крылае сонца ляціць да Захаду, аблакі гонацца за ім і—не ўсьпяваюць, асядаючы ўзгоркамі на чорных рэбрах гор.

*З расейскага пералажыў М. Р.*

---

# Адчуваньняў разьліў

**Я. К.**

Сьветларусая гладзь расхвалёваных ніў
Уліла мне ў душу адчуваньняў разьліў.

І навеяла шмат абунтараных дум...
Ніва! Як ня любіць мне таемны твой шум?

У ім—і ціхая па пражытым журба.
У ім—і бунт, ў ім—жыцьцё, ў ім—людзей барацьба.

Гэты шум, з пераводаў махрыстых ватроў,
Апалымвае сонечна-сьветлую кроў.

Песьні рвуцца з трывожных, бунтарскіх грудзей,
Поўны мараў ружовых і сьветлых надзей,

У шаўковую гладзь расхвалёваных ніў,
Што ўліла мне ў душу адчуваньняў разьліў.

---

# Паэта-змагар

**А. Сянькевіч**

*Да дзесяцігодзьдзя літаратурнай дзейнасьці М. Чарота*

Міхась Сямёнавіч Кудзелька, у літаратуры М. Чарот, нарадзіўся ў в. Рудзенск, на Чэрвеншчыне. Сын бедняка-селяніна, ён, як і многія з нас, пачаў пастушком, скончыў народную школу, потым настаўніцкую сэмінарыю. У часе вайны—у войску. У рэвалюцыю, у часы акупацыі і



падпольля—у шэрагах партызан, сярод барацьбітоў за Кастрычнік. Але яго зброяй у змаганьні за вольную працоўную Беларусь была ня толькі стрэльба—ён разам пявец рэвалюцыі, яе трыбун, трубадур. Вось як ён вызначае сваё месца, сваё назначэньне:

Я шумлівы Чарот, я мяцежны бунтар,
Я балота буджу гучным шумам,
У вадзе я жыву і абмыт дажджом хмар,
Але змоўкнуць ня дам сваім струнам.
Узды́му дух людзей, прабуджу іх ад сну,—
Славу, будучнасьць я ім прарочу...
Я мяцежны бунтар, клічу жыцьця вясну,
Клічу к працы свабоднай і творчай.

М. Чарот, яго «Босыя на вогнішчы», гэта паваротны пункт у беларускай літаратуры—ад матываў «адраджанізму» да матываў клясавай барацьбы.—Чарот пяе ня толькі аб вольнай Беларусі, ён пяе аб Беларусі працоўных, аб Беларусі рабочых і сялян.

Міхась Чарот—гэта ўвасабленьне ідэі магутнага саюзу рабочых і сялян.

Я пяю, што пяе селянін.
А ты чуеш? Іграе заводаў гудок,
Ў кузьні гучна зьвініць каваля малаток,—
Пра адно мы пяем, як адзін.

Гэтымі пачуцьцямі вёскі, вясковай бедкаты з пралетарам гораду пранітавана ўся творчасьць М. Чарота.

Аб тэматыцы М. Чарота гавораць назвы яго зборнікаў, вершаў, паэм—Завіруха, Босыя на вогнішчы, Чырвонакрылы вяшчун, Беларусь лапцюжная, Карчма, Марына, Ленін.

Рэвалюцыя—завіруха, батракі, беднота, пралетары, адным словам „босыя“, іх змаганьне за вольнае жыцьцё—вось аб чым пяе нам паэта.

Мы—дзеці краіны,
Дзе бура бушуе.
Мы на прадвечных руінах
Працы палац пабудуем.
Ня любяць нас—босых,
Хто век быў абуты.

У Чарота на сцэне той-жа народ, спрадвеку прыгнечаны. Але гэты народ паўстаў, рве свае путы. А што робяць некаторыя з адраджэнцаў. Яны адвярнуліся ад народу

І вы, хто гімны пеў гаротным,
Хто ў цемру слаў жыцьця праменьні,
Ў руках трымаеце каменьні
І нас пабілі-бы ахвотна.
А можа Чырвань Сонца Волі
Вам асьляпіла раптам вочы,

А помніце, як вы кляліся
Братом, сялянам і рабочым,
Што вы ня здрадзіце ніколі.
Пявун не прапяяў тры краты,
Вы—адракліся—супастаты.

Вось дзе пры аднэй тэматыцы дэмаркацыйная лінія паміж матывамі творчасьці М. Чарота і «адраджэнцамі» ў тыя часы.

Усе творы М. Чарота прасякнуты бадзёрасьцю, вераю ў перамогу. Ёсьць там і сум, але паэта сумуе таму, што яшчэ бачыць бяздоньне балот, страшную цемру, але ў гэтым суме гучыць упэўненасьць, што праз грукат машын, песьні фабрык «мы праскочым курган і бяздоньне балот».

Чарот—паэта-калектывісты. У яго вершах няма паасобных тыпізаваных гэрояў—яго гэроі гэта—рабочыя, сяляне, бедната—гэта босыя; гэроі Чарота—працоўныя масы.

Талент Чарота разгарнуўся на ўсе галіны літаратурнай творчасьці. Апроч вершаў, паэм Чарот даў нам мініятур-камэдыю «Мікітаў лапаць», музычную «На купальле». Збор прозы Чарота „Веснаход" дае нам шэраг малюнкаў з нашай савецкай рэчаіснасьці. «Саматканая сьвітка», «Наталачка-Шкрабалачка» і інш. выказваюць, што Чарот мастацкі ўладае ня толькі вершам, але і прозай.

У «Веснаходзе» М. Чарот у шэрагу кароткіх апавяданьняў малюе прыход вясны ў вёску.—Вясна-рэвалюцыя сваімі бурлівымі ручаямі ўскалыхнула, абудзіла сялянства ад яго спрадвечнага сну. Вось яна прыляцела на „самалёце" і ўзварушыла «венцяроўцаў», вось яна камсамольскай вольніцай праняслася сярод пракураных самагонам, апутаных папоўшчынай сялянскіх хат.

А самагон, папоўшчына, старыя традыцыі яшчэ моцна трымаюць у абцугох нашу вёску. І Чарот у апавяданьнях „Чалавек, які не нарадзіўся", «Споведзь самагоншчыка» яскрава адбівае барацьбу парадкаў новага быту з васкарузлымі традыцыямі старога.

Грамадзянская барацьба таксама знайшла свой адбітак і ў прозе Чарота. «Апошняя ноч» з яе гэроямі - гвалтаўнікамі падае кавалак з жыцьця бандытызму. «Грышка Сьвінапас», даўшы нам першы беларускі фільм (Лясная Быль), адбівае барацьбу працоўных у часы акупацыі, паэма „Марына" дае яскравы малюнак гэраічнай барацьбы рабочых і сялян Заходняе Беларусі.

Гэтыя невялікія апавяданьні, сабраныя ў зборніку «Веснаход», гавораць, што М. Чарот мае ўсе даныя, каб даць нам малюнак нашага багатага, шматграннага жыцьця на больш шырокіх палотнах, каб паказаць нам таго новага чалавека, якога сотнямі вылучае з свайго асяродзішча пралетарыят, каб адлюстраваць тую грандыёзную стройку, якая ажыцьцяўляе думку паэты, калі ён пісаў

Мы верым—узбудзіцца воля,
Дух творчы усёй грамады...
Мы створым жыцьцё нявіданае,
Збудуем палац да нябёс.

Аб некаторых баках творчасьці М. Чарота ёсьць паасобныя манаграфіі («Матывы лірыкі М. Чарота» У. Ігнатоўскага, «Лірыка Міхася Чарота» А. Бабарэкі, «Завіруха» М. Піотуховіча).

Нашай крытыцы, нашым гісторыкам літаратуры час зрабіць поўную манаграфію ўсёй творчасьці Чарота.

Ва ўмовах нацыянальна-культурнага будаўніцтва з нашай небагатай культурнай спадчынай Чарот адыгрываў і адыгрывае вялізарную ролю ў адбудове нашага тэатру, опэры, кіно і, перш за ўсё, літаратуры.

Асаблівасьць творчасьці М. Чарота—гэта тое, што ён, апранаючы свае ідэідумкі ў мастацкую, адпавядаючую дасягненьням сучаснасьці, форму, падае іх зразумелымі масам. Таму творы М. Чарота павінны быць у кожнай школе, у кожнай бібліятэцы, хаце-чытальні.

Чарот ня толькі пісаў, ён разам быў і арганізатарам маладога літаратурнага парнасу Беларусі.

Гэта ён згрупаваў вакол сваёй асобы творчую маладнякоўскую рацьць, ён зьяўляўся і зьяўляецца арганізатарам, кіраўніком нашай літаратурнай моладзі, а разам з тым Чарот адзін з лепшых і, трэба сказаць, наш першы прадстаўнік пралетарскай літаратуры.

Аб значэньні М. Чарота для беларускай літаратуры выразна сказаў у сваёй манаграфіі А. Бабарэка*): «Яго песьня—гэта зброя рэвалюцыйнай уплывовасьці на масы. Яго паэзія зьвязана з родным краем, вёскаю, хатаю, загонам, з рэвалюцыйным бядняцкім сялянствам, якое ідзе за рабочымі, з яго жыцьцём, працаю і змаганьнем. І ўсё значэньне творчасьці Чарота першага пэрыяду ў тым, што яна сваім „гучным шумам“ у нашу народніцкую па духу паэзію ўнесла першую плынь нова-сялянскай рэвалюцыйнай сьвежасьці. Чарот першы на беларускіх загонах ажыцьцёвіў на практыцы марксыцкі погляд на літаратуру, як на зброю клясавага змаганьня».

Адзначаючы надыходзячае 10-годзьдзе літаратурнай творчасьці М. Чарота, мы пажадаем нашаму паэту далейшай плённай працы на вялікім і адказным фронце культуры—на фронце літаратурным.

*) «Лірыка Міхася Чарота»—«Маладняк» № 9, 1924 г.

# ЗАРУНЕЛА, ЗАРУНЕЛА...

**М. Чарот**

Зарунела, зарунела аксамітам...
Рэчкай срэбнай—сонцам залілося...
На палёх здратаваных, прыбітых,
Паглядзі! Вясну радзіла восень.
Маладняк зялёны, бач, кудравіць,
Ахіляе край яскравым лісьцем...
Аб здабытай вольнасьці і славе
Маладняк шапоча ў песьні-сьвісьце.

Зарунела, зарунела аксамітам
Рэчкай срэбнай—сонцам залілося...
Паглядзі! Над краем ужо зьвіты
Промені—жытнёвыя калосьсі.
Барацьбой гартованы, расправай...
На прастор, у сінь прыгожа выйсьці...
Аб здабытай вольнасьці і славе
Маладняк шапоча ў песьні-сьвісьце.

# З паэмы „Босыя на вогнішчы“

**М. Чарот**

17

Змоўклі песьні грознай сілы...
Адкуль прышлі, і хто яны?
Што рвуць няволі кайданы
І сыплюць сьвежыя магілы?..
Яны—байцы вялікай рацьці,
Іх хата там, дзе ёсьць прастор!
Няволя, крыўда—вось іх маці!
Ідуць яны да сонца й зор.
За імі йдзе, хто голы, босы;
У панцуге жыў хто цэлы век...
Дарогу чорны сьнег заносіць—
Загінуць можа чалавек.

— Загінуць? Што-ж! На тэй магіле,
Якая зможа прыгарнуць,
Вясною раньняй, урадлівай
Прыгожа кветкі зацьвітуць.
Прывабіць колер іх чырвоны
Схіліць калені над пяском
Таго, хто шле цяпер праклёны
І вострыць меч на нас тайком.
— Браты, за намі! Кінь маленьне,
Хто праўдай жыць ня даў зарок...
Сьмялей... Нас будуць біць каменьнем:
Мы—нашых, вольных дзён прарок.



# Па куткох Меншчыны

## А. Зоркі

У вёску Дзімітравічы, Бярэзінскага раёну, мы прыехалі вечарам. У хаце, куды мы зайшлі, было некалькі чалавек. Сярод іх—сябры арцелі смалакураў. Усе знаёмыя мне сяляне. Пасьля вязьменных: «Як жывяце, што чуваць на сьвеце» пачалася гутарка. Перш усяго пачаў расказваць сваю крыўду бядняк Канарскі Рычард:

— На маім агародзе, які і так дужа вузкі, дык яшчэ стаіць будоўля—гандляра коньмі і каровамі—Бэнексона Мэндаля. У яго яшчэ ёсьць і вайначоска. Жыве багата — уся вёска і ўся акруга ведае. Гэтаму Бэнексону ў 1924 годзе далі кавалак зямлі—паўдзесяцінкі, каб ён там пабудаваўся. Я запатрабаваў, каб ён аслабаніў маю зямлю, дык ён не захацеў, і я мусіў падаць у суд. Дайшла справа да Менскай акруговай зямельнай камісіі, і Бэнексон там выйграў справу, бо яму нехта даў спраўку, што ён займаўся і займаецца земляробствам. А які-ж Бэнексон земляроб, калі ў яго нікалі ня было зямлі, калі ён заўсёды займаецца гандлем?

— А ты і ня ведаеш, хто даў Бэнексону спраўку, што ён земляроб?—запытаў Канарскага адзін з сялян.

— Не, браток, ня ведаю.

— Ды старшыня нашага сельсавету. Чаму ён гэтак зрабіў—хто яго ведае. Мусіць Бэнексон яго добра папрасіў.

— Ну вось і рабі што хочаш з нашым сельскім начальствам,—гаварыў Канарскі,—але мяне багаты ашукаў.

Сярод дзядзькоў ужо ішла гутарка аб арцелі. Арцель налічвае 6 сямей сераднякоў. Як арганізоўвалася—ніхто не хацеў у яе ўступаць. А цяпер усім зайздросна. Ужо арцель мае 250 руб. запасных сродкаў, нікому не вінавата, а ёй вінаваты рублёў 200.

— Арэшкавіцкае лясьніцтва ня хоча ісьці нам насустрэчу,—казалі сябры арцелі,—прыватніку яно здало адзін лепшы завод за шмат меншую арэндную плату, а нам, як арцелі,—паставіла дорага.

Арцель сваім членам плаціць большую цану за работу, як ня членам. Наша ячэйка папрабавала нам прапанаваць плаціць усім роўна. Але трэба хоць гэтым зацікавіць сялян арцеляю.



Узяліся за работу.

З арцелі перайшлі на кааперацыю.

— Што з нашай кааперацыяй—сказаць трудна. У кожнага крамніка недалік. Чалавек сем іх перавярнулася і ўсе выляталі з недалікам.

— А ў канцэлярыі кааператыву прапалі грашовыя дакуманты.

— Прыдзецца скора ўсім пайшчыкам адказваць сваёй маемасьцю. Але з Бярэзінскім

коопэратывам не аб'ядналіся—той добра працуе.

— Пабаяліся, што тады таварау ня будзе, хоць і цяпер іх няма.

Так, пасьмяяўшыся, пагаварыўшы аб тым аб сім—разышліся.

Назаўтра раніцой паехалі ў Новыя Прыборкі.

Увечары ў хаце гаспадара, дзе мы застанавіліся—вечарынка. Сабраліся сяляне і з другіх вёсак. Моладзь—за скокі, а старэйшыя—за разважаньні аб жыцьці.

Волаўскія гаспадары скардзіліся на тое, што з іх міліцыя садрала штраф за парубку, прыехаўшы пасьля амністыі. Другія расказвалі, што мала заработкаў, што ня скора выплачваюць зароблены грошы.

Назаўтра ўвечары—сход гуртка селькораў. Акрамя селькораў прышло і так многа моладзі. Папрасілі новую настаўніцу, каб яна прышла на сход. Прышла. Дагаварыліся з ёй, каб яна дапамагла ў працы гуртка. Згадзіліся. Да гэтага ня было каму дапамагаць гуртку, і ён працаваў кепска. Цяпер усе селькоры абяцалі, пры дапамозе настаўніцы, шчыра ўзяцца за працу.

Пасьля гэтага прачыталі ў «Беднаце» артыкул: „Ці не пара коопэраваць скотны двор». Аб пабудове ўзорных агульных двароў для скаціны ўсёй вёскі—сказалі:

— У нашай вёсцы гэтага ня зробіш. Пабаяцца скаціну ставіць у агульны хлеў, бо будзе здавацца гаспадаром, што яна тады і не яго.

— Рапей трэба ў нас правесьці землеўпарадкаваньне,—казалі ўсе,—а пасьля і за палепшаньні. Але туга нешта надта з землеўпарадкаваньнем: вось Бабінцы ўжо тры гады як далі задаткі, а землеўпарадкаваньня яшчэ няма.

— Жывучы ў вёсцы—нічога добрага на полі не завядзеш—стравяць усё.

— Як,—пытаю,—са школаю?

— Ды яшчэ нічога. Вёска Валы адмовілася дапамагчы скончыць школу, а дзяцей іх ходзіць вучыцца болей як нашых. Нашы сяляне згодны перавесьці школу ў вёску к нам і скончыць. Калі ніхто з другіх вёсак не дапаможа—дык сюды і перавязем.

— А як падпіска на газэты?

— Ужо тэрмін амаль што на ўсе газэты канчаецца.

— Трэба падпісвацца зноў.

Гэтымі днямі атрымаем грошы, самі падпішамся ды і іншых угаворым.

На гэтым і скончыўся сход.

А на другі дзень раніцой я ўжо еxаў на ст. Слаўнае, у Воршу.





З вясковых малюнкаў (мал. *Акуловіча*)

# Панна Яніна

**Зьм. Фалькоўскі**

Восень апаліла прыроду і паклала на яе сваё кляймо. Топалі, што сіратліва напрытуляліся да заплёваных тратуараў гораду, сумна гойдаюць галінамі.

Жоўтая лістота залоціць бруд вуліц. Часам, нібы чаго спалохаўшыся альбо абурыўшыся, яна раптоўна ўздымаецца ўгару і бяжыць насустрач будынкам, людзям ды равучым аўто, потым, нібы ведаючы свой лёс, яна стомленая падае на той самай брудны брук.

Я толькі што прыйшоў з рэдакцыі „Більшовіка“ дадому. Глянуўшы праз вакно на непавабную вуліцу, я чамусь успомніў другую восень—восень 1920 году. У памяці ўстала ЧК, таварышы, „Камуна 4°3“, брудненькае, аднак вясёлае места Менск, «паёк», хлеб з макухаю і... панна Яніна.

Калі я гэта ўсе ўспомню, мой мозг адзначае адну надзею, якая нібы жалезам упяклася на папірусе маёй памяці.

1920 год. Менск.

На Захараўскай вуліцы, у цэнтры гораду, вялізарны будынак, навокал якога ўдзень і ўноч ходзяць вартавыя чырвонаармейцы. Над дзьвярыма на невялічнай пафарбаванай чырвонай дошчачцы:

> Б. С. С. Р.
>
> **Чрезвычайная Комиссия**
>
> **по борьбе с контр-революцией, шпионажем, спекуляцией и преступлениями по должности**
>
> **при РЕВКОМЕ БЕЛОРУССИИ.**

Кожны дзень а чацьвертай гадзіне я выходзіў з ЧК разам з упаўнаважаным майго аддзелу т. Нядбальскім і ішоў да «сталоўкі». Наеўшыся «канд'ёру», мы вярталіся да ЧК на вячэрнюю працу, потым гадзіне а дзевятай ішлі на «шармака» куды-небудзь да кіно, а то дадому ў «Камуну 4°3.». Жыцьцё наша было жыцьцём працаўнікоў. Кожная хвіліна была ў нас разьмяркована. Праўда, іншы раз зусім нечакана прызвычаены мэханізм нашага кожнадзённага жыцьця псаваўся і яно выбівалася з тых рамак, у якія мы ўставілі сваё жыцьцё, але гэта было рэдка, і ў большасьці сваёй наша жыцьцё было манатонным. Мой сукватэрнік, а разам з гэтым і маё найбліжэйшае начальства, быў цікавым чалавекам. Напершае: з усіх катэгорый злачынцаў ён найбольш ня любіў спэкулянтаў; падругое, ЧК для яго было—усё, бо па-за інтарэсамі ЧК ён ня жыў; патрэцяе—ненавідзеў жанчын, і калі аднаго разу завёў я пра іх размову,—ён, тонам, якому ня можна супярэчыць, сказаў:

— «Эх, пацан ты няшчасны! Яшчэ малако на губах не абсохла, а туды-ж. „Жанчына“... «спадніца», — перадражніваў ён мяне, —а ты ведаеш, што такое жанчына? Тото-ж! Маўчаў-бы лепш!

Мяне страшэнна абурылі такія адносіны да маёй «асобы». Я «пом. уполномоченный», сьледчы, выходзіць ня хто-небудзь, а сьледчы, а ён мяне «пацан». Гэта назаўсёды адбіла ў мяне ахвоту балакаць на гэту тэму з Нядбальскім. У маёй галаве іншы раз бегалі розныя фантастычныя думкі і здагадкі наконт Нядбальскага, але яны ня вытрымлівалі, як кажуць, крытыкі і яшчэ больш распальвалі маю цікавасьць.

Неяк я стаў прыкмячаць, што маё начальства штосьць вельмі прыглядаецца да сваёй «мордафізіі», як яно перад гэтым жартаўліва гаварыла. Яго заўсёды раскіданыя «патлі» прынялі цяпер выгляд «полькі», а яго боты, хоць і кашы прасілі, але-ж яшчэ з вечару націраліся шчоткаю да «блёскату». Нязвычайная рэч: Нядбальскі пасьля вячэрняй працы пачаў пакідаць мяне аднаго ў пакоі ўсе часьцей і часьцей. Гэта наводзіла мяне на думкі, але яго адказ «иду по делу» мяне заспакойваў.

— Ну што-ж,—думаў я,—у яго справы!

Нарэшце, мая чэкісцкая натура ня вытрымала. Пачаўшы аналізаваць тыя ці іншыя факты, я прышоў да вынікаў, што Нядбальскі „брэ... брэ“. Я рашыў, што чымся расплутваць клубок здагадкамі, лепш высачыць, куды гэта штовечар цягаецца маё «начальства». Я-б не сказаў, што «сочка» мне падабалася; не, бо, паперщае, я-б мог наткнуцца на няпрыемнасьць... Жаданьне ведаць, куды ходзіць Нядбальскі, узяло верх над усім, і аднаго разу ня ўсьпеў ён выйсьці за дзьверы, дзе зьмяшчалася камуна, як я зрабіўся яго ценем. То губляючы яго, то натыкаючыся на яго, я і ня прыкмеціў, як перад маімі вачыма ў цемені вырас невялічкі будынак. Нядбальскі ўвайшоў у двор. Хвіліна. Я застаўся на вуліцы адзін.

— Што гэта за чорт?—спытаў я сябе. Думкі, як разварушаны мурашнік, разьбегліся па ўсіх кутках майго я. Мне страшэнна хацелася падыйсьці пад вакно, але небясьпека быць «раскансьпіраваным», ды тоўстыя заслоны,—перамаглі маё жаданьня. Перайшоўшы на другі бок вуліцы, я стаў і думаю—ці ісьці мне дадому, ці чакаць? Інстынкт падказаў «пачакаць»... і я застаўся. Праз некаторы час ляпнула клямка, і з чорнай ляпы варот вынырнула «паліто клёш», а з ім і шэры шынэль, у якой я пазнаў Нядбальскага. «Паліто клёш» падало руку «шынэлю», а маё зьдзіўленьне пратэставала супроць таго, што яно бачыла.

— Жанчына? З Нядбальскім?

Звонкі дзявочы сьмех быў найлепшым доказам.

— Ну пачакай-жа ты, Ірадзе. Няхай я буду астатнім «пацаном». Няхай я пападу ў лапы польскай контр-разьведкі, калі не пазнаёмлюся з ёю!

У той самы вечар, калі я бачыў першы сон, нечая халодная рука дакранулася майго носу. Я расплюшчыў вочы, пацісьнуў вейкамі, а мае губы паслалі «к чортавай мацеры» таго, хто парушыў спакой майго сну. Але дакучлівая рука зноў прычапіла мой нос да губы, я ізноў расплюшчыў вочы і на гэты раз убачыў перад сабою сваё «начальства».

— Ты ўжо сьпіш,—пытала яна мяне.

— А табе якое дзела,—агрызнуўся я.

— Ну і сукін ты сын, скажу я табе. Замест таго, каб стаць «ува фронт», дык ты яшчэ і лаеш мяне? Га?

— Слухай! Хоць ты і «начальства», але табе ня шкодзіць праехаць на «паравым кацеры». Папершае, не забывайся, што ў мяне заўтра дзяжурства,—падругое, прыдумай «нагрузку». А патрэцяе, мне спаць хочацца.

Нядбальскі не зьвяртаў увагі на маю аргумэнтацыю і, засьмяяўшыся, дадаў:

— Эх, каб ты ведаў, якая ў мяне баба, то засьпяваў-бы другое. Пальчыкі абліжаш. Такой бабы нідзе не сустракаў... Харошы тавар і «обмундирование» нішто сабе.

Я пільна глянуў на яго, хацеў расказаць, што ўсё ведаю, але пабаяўся. Аж да самага ранку Нядбальскі ня даў мне супакою, увесь час расказваючы пра сваю «бабу».

* * *

Сквэр усьміхаўся рознымі абліччамі—спацыравалі. Недзе далёка кашляў, лепш сказаць—рыгаў, нібы хворы на сухоты, рухавік электрычнай станцыі.

Была нядзеля.

Збоку каля сквэру стаяў я, Нядбальскі і «паліто клёш».

Мы знаёміліся.

— Яніна Чапска—мой таварыш,—дадаў Нядбальскі, пад час нашага знаёмства.

Я крыху падзівіўся на яе, заглянуў у бяздоньне яе вачэй і назваў сябе. Мая новая знаёмая мне чамусьці не падабалася. Праўда, калі-б паставіць поплеч з ёю статую Вэнэры Мілоскай, то процiў Яніны яна-б здалася за старую спэкулянтку, але ў харастве Яніны было штось такое, чаго з першага разу ня можна было схапіць і што з першага разу прымусіла мяне аднесьціся да яе ваража. Я пасядзеў з імі ў сквэры, потым разьвітаўся і пайшоў дадому.

* * *

Прайшло трыццаць дзён з тае хвіліны, як я пазнаёміўся з Янінаю Чапскай.

Ужо два тыдні, як мяне загадам па ЧКБ «в виду перегруженности работаю» перавялі да 3 аддзелу сьледчым. Аднаго дня маё новае «начальства» паклала перад маімі вачмі ордэры «з правам вобыску і арэсту ўсіх грамадзян, пражываючых на Падгорнай вуліцы, дом № 38, кв. 7» і, ўзяўшы мяне за каўнер, сказала:

— Слухай! Ты, здаецца, спрытны хлопец. А гэта сур'ёзная апэрацыя. Вазьмі з сабой «апэрацыйнікаў» ды з дзесятак чырвонаармейцаў. Ня будзь разявякаю, ад посьпехаў тваіх шмат што залежыць!

Я насьмешліва ўзяў «пад казырок», схапіў ордэры... і праз гадзіну чырвонаармейцы, цесна абкружыўшы будынак, сталі каля кожных дзьвярэй, у кожным месцы, якое здавалася мне небясьпечным. Я падняўся з «апэрацыйнікамі» на другі паверх, абмацаў у цемені на дзьвярох «7» і нэрвова стукнуў ручкай маўзэра ў дзьверы. Пачулася:

— Хто?..

— «Імем права».

За дзьвярыма знаёмы нечы голас шаптаў:

— Ня пускай.

Я забарабаніў у дзьверы.

Праз хвіліну ў пакоі мае вочы заглянулі ў бяздоньне вачэй Яніны.

Каля яе стаяла нейкая старая пані. Яна неяк з апаскаю пазірала, то на мяне, то на маіх таварышоў, і ў яе поглядзе было гэтулькі нянавісьці, што твар здаваўся чырвона-жоўтым.

Панна Яніна таксама пабялела. Яе вусны здолелі прамовіць прывітаньне і запытаць: «што ўсё гэта азначае?»

Замест адказу, мая рука перадала ёй ордэр. Перачытаўшы некалькі разоў паперку, Яніна з нейкаю агіднаю насьмешкай зьвярнула мне ордэр.

— Ну, што-ж? Пачынайце,—сказала яна, і я пачаў.

У работу пайшлі спачатку шуфлядкі ў стале з розным папяровым «хламам», за імі абразы і партрэты, а потым я ўзяўся за кніжкі.

Асаблівую ўвагу я зьвяртаў на маліцьвенныя кніжкі, бо практыка мяне навучыла, што сярод найсьвяцейшага тэксту іншы раз хаваюць найгрэшныя рэчы.

Аднаго разу ў біблії і ў торы аднаго спэкулянта я знайшоў шмат «кацярынак», некалькі каралаў, брыльлянтаў, што былі захаваны ў прэзэрватывы.

Вось таму і зьвярнуў я галоўную ўвагу на маліцьвенныя кніжкі, і такі не памыліўся.

Праз некаторы час з-за скураной абкладкі старога маліцьвеньніка выглянулі дзьве невялічкія паперкі. Пабачыўшы іх у мяне ў руках, Яніна зьбялела і нібы шарахнулася ў мой бок. Але маўзэр, які трымала ў той момант мая рука, і прысутнасьць маіх таварышоў абдало лёдам панну Яніну. Я крыху насьмешліва прыблізіўся да яе, разгарнуў паперку і сказаў.

— Панна Яніна! Можа вам пачытаць?— і. не дачакаўшыся адказу, пачаў чытаць.

П. А. В.

**АДДЗЕЛ РАЗЬВЕДКІ**
**пры штабе 12-ай пазнанскай дывызіі**
**№________**

Панне Яніне Чапскай!

Польская арганізацыя вайсковая прапануе вам якімі-б то ні было спосабамі дастаць дзіслакацыю чырвоных часьцей 16 арміі. Патрэбна вядома завербаваць у кожнай часьці сваіх людзей. Кошт па выдаткі атрымайце ад ксяндза пана Каржанеўскага. Усе весткі аб вашай працы прапануецца вам дасылаць праз упаўнаважанага ПАВ VII групы гораду Менску да нас два разы ў месяц.

Сэкратар ПАВ
С. Гэмпэль.

А потым

## Рапарт.

**Да III групы ПАВ г. Менску.**

Гэтым даводжу да вашага ведама, што справу з дзіслакацыяй чырвоных часьцей наладзіла, завербавала сваіх людзей. Весткі аб працы будуць пасланы крыху пазьней, а таксама і справаздача на патрачаныя грошы на арганізацыю сеткі шпіанажу будзе паслана пазьней. Паве-

дамляю, што пасланыя мне сродкі—я атрымала праз пана ксяндза сваячасова.

З пашанаю Яніна Чапская.

Чытаючы, я прыкмячаў выраз на твары панны Яніны. Ён рабіўся то чырвона-зялёным, то белым, як сьнег, а яе сінявата-чорныя вочы гарэлі нянавісьцю.

— Гэта ваш маліцьвеньнік, панна Яніна?—запытаў я ў яе, скончыўшы чытаць пеперы.

Ледзь чутны шэпт — «мой» — быў яе адказам.

— А тая старая пані—ваш кур'ер.

Маўчаньне панавала ў пакоі.

* * *

Калі я ўвайшоў да габінэту Нядбальскага, ён сядзеў за сталом і ўважліва пераглядаў нейкую справу. Ён нават ня прыкмеціў, як я падышоў да яго.

— Ты заснуў—ці што? Здароў!

Нядбальскі нэрвова ўздрыгнуў, падняў галаву і нездаволена праз зубы адказаў.

— А, гэта ты?—Здароў. Якога чорта ты цягаешся і перашкаджаеш працаваць.

— Слухай, Нядбальскі, ты не тае, бо...

— Што—бо?—спытаў ён.

— А то я яшчэ магу цябе арыштаваць як падазронага ў шпіянажы...

— Ты? мяне? ну і брахаць навучыся, сука!..

— Што? я брашу? на вось глядзі.

І з гэтымі словамі палез я ў папку, выцягнуў ордэры, потым рапарт «панны» Яніны—і ўсё паклаў перад яго носам.

Ён перачытваў рапарт напэўна ў дваццаты раз. Потым яго, шэрыя з сталёвымі адценьямі, вочы ўставіліся ў мяне, а губы трывожна зашапталі:

— Ці праўда?

— Дзівак-жа ты, Нядбальскі! Няўжо ты думаеш, што я разыгрываю нейкую камэдыю, ці што?

Тады яго рука нэрвова схапіла шапку, а потым палезла да шуфлядкі ў стале і выцягнула адтуль рэвольвэр. Я здагадаўся, што ён хоча рабіць.

— Не клапаціся, Нядбальскі, яна ўжо ў нас.

— У нас?

— Так! У нас,—адказаў я.

Нядбальскі неяк зразу прысеў, стуліўся і, хістаючыся, падышоў да крэсла. Я стаяў сярод габінэту і маўчаў, нікога ня было. Шкода стала Нядбальскага. Тыя сьлёзы, што зьбіраліся на яго вочах, той каменны выраз яго твару быў сьведкам яго ўнутранага змаганьня.

— Зьмітро,—зьвярнуўся ён праз хвіліну да мяне,—ты ня сьмейся, што я пусьціў кісьліцы. Ого! Нядбальскі ня баба. Нядбальскі яшчэ ня гэта бачыў і будзь я апошні «мярзавец», калі ня сустрэнуся з «ёю» яшчэ раз. То будзе сустрэча...

Ён ня скончыў.

Я глянуў на яго. Яго вочы ў той момант жорстка кідаліся некуды далёка, а ў яго голасе чутна была сталёвая нотка пагрозы і ўпэўненасьці ў тым, што ён сваіх слоў ня кідае на вецер. Потым сьціснуў ён мне руку і, пасьміхваючыся, дадаў:

— А ты-ж... ня будзь сарокаю. Дзякую за паведамленьне. Другі раз буду разумнейшы. Бывай здароў. Бачыш колькі спраў ляжыць—і ён паказаў рукой на стол.—Ну валяй—бо справа не чакае.

Моўчкі вышаў я з габінэту.

* * *

Праз два тыдні ў габінэце прэдчэка на стале ў канцы з надпісам «к докладу» «секретно» ляжаў рапарт:

Прэдчэка Беларусі.
Упаўнаважанага VII аддзяленьня Аляксандра Нядбальскага.

РАПАРТ.

Гэтым даводжу да вашага ведама, што прыгавар на дзелу 28 супрацоўнікоў ПАВ, абвінавачваемых у шпіянажы, сёньня а 3-цяй гадзіне ўночы выканан мною.

Упаўнаважаны А. Нядбальскі.

Да рапарту быў прыкладзены сьпіс засуджаных да расстрэлу. Супроць кожнага прозьвішча асуджаных стаяў крыжык. Адно прозьвішча было чамусьці зусім закрэсьлена. Толькі добра прыглядзеўшыся магчыма было прачытаць «Яніна Чапская»

**З украінскага пераклаў**
**Зьм. Белы.**

# МАЦІ

**З. Бядуля**

Бягуць, галёпам імчаць коні. Носяцца ўдаль па чарзе, у пераменку—то яркабелыя, то бліскуча-чорныя:

Дні і ночы.

Дні—сонечныя, цёплыя

Ночы—сінія, зорачныя.

Дні і ночы пахнуць дымам і чалавечым потам.

Увесь дзень дым вісіць воблакам над лесам, часам над дарогай.

Уночы ў клубах чорнага дыму зіхацяць агнёвыя птушкі, чырвоныя плямы мітусяцца ў далячынях, мігацяць спалоханымі вачыма дзівосных, нязнаных волатаў-асілкаў.

Мерны тупат ног, скрыгаты і скрыпаты калёс, грукатаньне павозак, крыкі людзей, ды хрыпоты грозныя лаянкі, калі-ні-калі страляніна.

Усё гэта зьліта ў адну дзікую музыку. Усё гэта зьмешана ў бадзёрым, напружаным, бы сталёвая спружына, тахце.

Ужо трэція суткі як чырвонаармеец Сяргей Панасюк ня сьпіць.

Яго вайсковы атрад сьпяшыць у здагонку за польскімі легіянэрамі, імчыць па пясчаных, пыльных прасёлачных дарогах, праходзіць праз напалоханыя, разбураныя вёскі.

— Вось нядаўна легіёны пагналі нашых коняй разам з мужыкамі ў абоз,—кажуць ў аднэй вёсцы.

— Толькі што былі палякі,—гавораць у другой.

Кожная вёска падносіць чырвонаармейскаму атраду свае страшныя навіны.

Дымяцца хаты, гумны. Гараць лясы. Легіянэры асьвятляюць свае сьляды яркімі пажарышчамі.

— Наперад! уздагон!

А то—увесь край зьнішчаць.

Стаянкі робяць кароткія. Адпачнуць трохі, пасілкуюцца з паходнай кухні і—далей... далей...

Сяргей Панасюк, ня гледзячы на зморанасьць, не адчувае цяжкасьці стрэльбы. Яму з кожным крокам робіцца ўсё лягчэй. Нават таварышы, якія ідуць побач з ім, адчуваюць яго зухаватасьць.

— Чэрці цябе носяць, Панасюк!

— Не сьпяшы так!

Сяргей Панасюк не зварачвае ўвагі на такія словы таварышоў.

Удумёным, глыбокім вокам ён аглядае ваколіцу. Вунь жоўтая, камяністая Лысагорка. А далей—у зялёнай лагчыне стромкі бярэзьнік. Ніжэй уецца рачулка, вузенькая, нібы выкапаны равок. Вось яна агібае срэбнай падковай сямейку прысадзістых хвоек...

А быў тут Панасюк пяць гадоў таму назад... А яшчэ тры вярсты—і яго родная вёска, калі палякі не спалілі, кіўне саламянымі стрэхамі на пыльную дарогу.

Пяць гадоў, як Панасюк пакінуў старую матку ў маленькай хатцы ля выгану ў самым канцы вёскі Малінаўкі.

— Ці матка спазнае мяне цяпер? Апошні ліст атрымаў год таму назад.

У Панасюка ўсплывае жыва ў памяці малюнак разьвітаньня з маткай. Яна галасіла як па нябожчыку:

— На каго ты мяне, старую, пакідаеш?

У Панасюка тады сэрца акамянела.

Толькі ў чужым горадзе жаласьлівасьць да маткі зьявілася. Каб не сароміўся, дык нават паплакаў-бы. У вялікай завірусе 1917 году Панасюк ледзь зусім не забыў пра матку.

— Вось калі надышоў час пабачыцца... Абавязкова выскачу хоць на паўгадзіны, на некалькі хвілін. Потым даганю таварышоў...

Панасюку здаецца, што чырвонаармейцы соўваюцца наперад вельмі марудна. Яму ня церпіцца. Вось, каб можна было-б, ён бягом наперад пусьціўся-б...

Ён жыва цяпер уяўляе сабе выгляд маткі, яе твар, голас, вопратку. Хутка пабачыць старую...

Яму задаецца, што цяпер маці сустрэне яго ў такім самым выглядзе, з тымі-ж словамі, як пяць гадоў таму назад:

— На каго-ж ты мяне пакінуў?—запытаецца яна; пачне зноў плакаць, толькі ня з гора, а з радасьці.

Усе свае пачуцьці, ці смутныя ці радасныя, старая матка Панасюка выяўляе праз сьлёзы. У яе такая звычка.

Сяргей Панасюк як-бы бачыць яе твар, зморшчаны, зямліста-шэрага колеру, нарыхтаваны кожную хвіліну да плачу і сьлёз, нібы скрыпка да ігры...

Калі чырвонаармейскі атрад узышоў на ўзгорак і параўняўся з старым крыжам, які яшчэ і цяпер тырчэў на дарозе нямым вартаўнікам, у Панасюка радасна забілася сэрца.

Родная вёска, Малінаўка, ляжала перад ім, як на далоні.

Палякі не пасьпелі спаліць...

— Зараз... зараз...

Абапал дарогі на мяжы былі раскіданы бліскучыя бляшанкі ад кансэрваў, разьбітыя бутэлькі, паперкі. Нядаўна вораг тут еў абед. Бляшанкі і шкло блішчэлі на сонцы. Вільгаць тлустасьці на бляшках мігацела пад сонцам, расьсейвала тоненькія праменьчыкі. Куры крычалі спалоханымі галасамі. Мабыць, толькі што гналіся за імі легіянэры... Некалькі скручаных курыных галовак ляжаць расьціснутыя ў калюгах.

Насустрач атраду бяжыць чалавек— бяз шапкі, у расхрыстанай зрэбнай кашулі. Валасы прыліплі да потнага бурага твару. Вочы мутныя і чырвоныя, нібы ў п'янага...

— Таварышы... таварышы,—крычыць ён ахрыплым голасам,—вунь там...

Зьбянтэжаны селянін ткне пальцам наперад—у даль, у рэдкі ельнічак.

Вунь там...

Панасюк чуе здалёку голас чалавека:

— Палякі брата забілі... Падпалілі хату..., Ратуйце...

Чалавек гаворыць адрывіста, нібы дэпэшу дыктуе.

Панасюк па голасу пазнае старога Сымона з вёскі Гладышоў.

— Ратуйце! Ратуйце!—узмацняе Сымон сваю вестку перад атрадам.

Атрад сьпяшыць...

— Зараз... Зараз...—думае Панасюк.

Вось першыя хаты роднай вёскі.

Той самы пах, як і пяць гадоў таму назад.

Панасюка расчульвае родны пах вясковай кісьляціны.

Нічога не зьмянілася. Толькі мох на стрэхах пышнейшым стаў, гусьцейшым аксамітам сьцелецца па шэра-бруднай саломе. Платы раскіданы, павалены. Каля хаты дзядзькі Сапрона ляжыць плазам дубовая старая брама. Шулы вывернуты з чорным сьвежым мясам зямлі, а вароты тут-жа расьціснуты, як маленькі паром.

Шпарка ідзе наперад атрад.... Перад вачыма Панасюка мігацяць маленькія шыбіны вакон. Дзе-ні-дзе мільгне ў вакне ільняная дзіцячая галоўка, расплюсьне нос аб шкло—і зноў зьнікне, нібы спрытная мышка.

Вось і выган...

Родная хатка Панасюка...

Грамада людзей стаіць ля дарогі.

Мужчына, кабеты, дзеці...

Перад вачыма Панасюка мільганулі вочы знаёмых. Устрывожаныя твары. На хаду ён рупна шукае вачыма сярод жанчын, сярод хустак...

— Дзе яна? Дзе?

У грудзёх Панасюка горача і пуста. Толькі во—затухкала сэрца, забілася моцна...

... Вунь стаіць згорбленая, нібы корч, зморшчаная ў сухі грыбок старэнькая бабулька.

... Гэта яна—маці...

Шпарка імчыць наперад атрад. Стрэльбы нарыхтаваны. Вораг блізка...

Чуваць крыкі роспачы з вёскі Гладышоў. Працяглыя жаночыя войканьні рэжуць паветра:

— У-у-у-уй... а-а-а-ай...

Праз рэдкі ельнічак жудасьць рвецца сюды—застыглая, вар‘яцкая.

Яшчэ шыбчэйшы крок.

У вачох чырвонаармейцаў—пажар...

Толькі адну хвіліначку ўпіўся Панасюк гарачымі вачыма ў зморшчаны твар роднай маткі—можа толькі дробную часьцінку хвіліны, міг адзін, бо ногі імчалі яго:

— Наперад... наперад...

Але Панасюку здалося, што доўга-доўга ўглядаецца ён у любы, родны твар, ён пазірае з пяцігадовым голадам у згорбленую постаць старэнькай маці...

— Наперад... наперад...

І заўважыў Панасюк у гэты мігатлівы міг усе ледзь прыкметныя, самыя дробненькія зморшчыны на твары роднай маткі. У яго памяці адбіўся, нібы на хвілёвым фотаздымку; выгляд старой: яе вопратка, залатаны хвартух, зашмальцаваны кавалак палатна на галаве замест хусткі, босыя ногі — бурыя, патрэсканыя, з пакрыўленымі нібы вывернутымі ў суставах пальцамі. У руках яна трымала вандзэлак.

Падсьлепаватыя вочы старой праплылі па чырвонаармейцах; вочы нібы намацвалі сына сярод таварышоў.

Так яму здалося. Яна зусім ня ведае, што ён тут...

Панасюк хацеў пяшчотна паклікаць:

— Матулька... Матулька...

Хацеў крыкнуць на ўвесь голас:

— Маці!.. Маці!..

Разьняў губы... Сорамна было перад таварышамі...

Сьпяшыў атрад.

Суха зрабілася ў горле. Нібы хто жарстваком пашараваў там, выцер сьліну, высмакатаў кроў.

— Наперад! Наперад!

Ногі ішлі самі сабою. Вочы ў Панасюка заплылі. Ува ўсім целе ён адчуваў холад. Сьціснуў зубы, каб не барабанілі. Злосьць напала... Сашчаміў стрэльбу ў руках так моцна, ажна хруст пальцаў адчуваў на гладкай сталі.

— Бабулька, бабулька, куды ты? Адыйдзі!—пачуў Панасюк голас чырвонаармейца, які ішоў побач з ім.

— Сяргейка... сыночак... родненькі...

У Панасюка ледзь стральба ня выпала з аслабленых пальцаў.

Варкатлівы, пяшчотны, слабы, дрыжучы голас роднай маткі працік у яго істуту, запоўніў яго вушы мэлёдыйным, ціхім звонам, ахмяліў яго кроў нейкай жаласьлівай радасьцю, аслабіў напорнасьць усяго цела.

— Матанька... матанька... — шапталі гарачыя вусны.

— Наперад... наперад...

Старая лавіла рукамі паветра, шукала апоры. Вандзэлак выпаў з яе рук.

— Пасьля, маці... Пасьля... Цяпер няма калі...—прагаварыў Панасюк чужым, далёкім галасам.

Зноў акрэп.

Яшчэ мацней, чымся раней, рукі сьціснулі стрэльбу.

З блізкай вёскі Гладышоў набліжаліся енкі дзікай роспачы...



# БІБЛІЯГРАФІЯ

## „З ДЫМАМ-ПАЖАРАМ“. А. Ляжневіч. Рэволюц. п'еса ў 3-х дзеях, стар. 44. Выданьне БДВ, цана 50 к.

Перад намі Ляжневічава п'еса «З дымам-пажарам». Робячы невялікую прадмову, аўтар зазначае сам, што ў гэтым творы цалкам барацьба партызан не ахоплена. Ды гэта і немагчыма зрабіць у аднэй п'есе.

Гэта толькі асобныя малюнкі гэраічнае барацьбы партызан.

Паглядзім, як аўтар здолеў у гэтых малюнках паказаць барацьбу.

У першай дзеі паказваецца жыцьцё партызан у лесе, як яны, робячы помсту, палілі панскія маёнткі. Адзін з партызанаў „Рыжы“ робіць здраду. Ён з цівунам вядзе палякаў на месца стаянкі партызан.

Перад гэтым пад вогнішча крадзецца лясьнічы, дзе яго партызаны хапаюць і душаць. Такі-ж лёс сустракае і цівуна з «Рыжым», якія бяз зброі ішлі ўперадзе палякаў.

Дзея адбываецца ноччу, час трывожны, а лясьнічы, цівун і «Рыжы» ідуць сьмела на партызан бяз зброі. Малюнак не рэальны. Ды, я думаю, і польскія жаўнеры ня гэтак сьмела пойдуць ноччу ў лес, калі на кожным кроку пагражае небясьпека.

У другім акце яшчэ горш. Дзея адбываецца ўлетку 1920 г. Апошні адыход палякаў. У маёнтку стаіць польскі штаб. Чакаецца прыезд графа ў гэты маёнтак.

Партызаны не даюць спакою палякам. Мацей—галоўны атаман робіцца вядомым ва ўсёй акрузе, як вораг паноў.

У двары ідзе падрыхтоўка да спатканьня графа. (Заўважце апошні адыход палякаў, а граф едзе з Варшавы ў Беларусь).

Аконаму, занятаму гэтаю падрыхтоўкаю, набягае думка падкупіць рабочага, каб ён выведаў аб партызанах. Даецца шэраг заданьняў.

Рабочы дае згоду, з мэтаю ў адваротны бок. І ў трэцім акце, назаўтра, калі прыехаў граф і адбываецца баль, ён прыносіць хлусьлівае паведамленьне аб падрыхтоўцы партызан зрабіць напад на бліжэйшыя маёнткі.

Жаўнеры, за выключэньнем некалькіх (варты) едуць на партызан, якіх партызаны, ва ўмоўленым месцы, сустракаюць агнём.

Калі рабочы выведзен ідэалёгічна вытрыманым, то ня верыцца, каб настолькі былі дурныя паны верыць у розныя паведамленьні.

Як вядома, дзея адбываецца ўлетку 1920 г. (перад адыходам палякаў) і толькі цяпер граф з упраўляючым прыехалі рабіць расплату за зямлю, маёмасьць, калі надыходзіў час адракацца апошняй.

Тыпы палякаў выведзены бязьдзейнымі. Палкоўнік ня ведае, па якіх прычынах «хлопства» адносіцца з непрыхільнасьцю да яго.

У апошнім акце паны робяць баль, заклікаючы сабе на пацеху дзеля сьпеваў, скокаў хлопцаў і дзяўчат з вёскі.

У той час, калі ўсё войска пайшло бараніць суседнія маёнткі ад нападу партызан, то наўрад ці ўздумаюць паны рабіць такую масавую сцэну з «халопамі» на сваю галаву.

Вельмі штучна надуман малюнак перамогі партызан над палякамі. Апошніх удаецца забраць, павязаць ім рукі бяз ніякага супраціўленьня, бяз ніводнага стрэлу.

Цікава зазначыць, што як-адным (партызанам) на працягу ўсяе п'есы вязе, дык другім (палякам) наадварот. (Сапраўдная Пінкертонаўшчына ў распрацоўцы фабулы).

Зьмест п'есы сам па сабе цікавы, бо, трэба сказаць праўду, добрае п'есы з рэволюцыйнае барацьбы ў нас няма, але распрацоўка ня зусім удалася аўтару.

Для пастаноўкі ў вёсках цяжкая. Трэба вялікая сцэна, неабходная дэкарацыя, а адкінуць яе, замяніць больш лягчэйшаю, як радзіць аўтар у «дарадах», то зусім страціцца ўсякае ўражаньне гледача.

Тэхнічна п'еса выдадзена добра. Цана 50 к. залішне.

**Ал. Яз-віч.**

## Кацярына. П'еска ў 2-х дзеях В. Сташэўскага. Цана 15 кап. 20 старонак. Б.Д.В.

П'еска невялічкая. У першай дзеі паказана дарэвалюцыйнае жыцьцё селянкі Кацярыны.

Кацярына знае хатнюю справу. Мужык яе Дзяніс п'е часта гарэлку. Прыходзіць дадому і сварыцца з Кацярынай і з сваім бацькам.

Другая частка малюе пасьлярэвалюцыйны час.

Кацярына ўжо член сельсавету. Яна працуе добра ў сельсавеце. Тут Дзяніс адсунуты на „задні плян“. Ён ня прыметны ў другой дзеі так.

Матар'ял у п'есе дрэнна апрацаваны. Пахне трафарэтнасьцю. П'еса напісана па шаблёну. П'са разьлічана, вядома, толькі на вясковую сцэну. Дрэнна толькі тое, што часта прынята даваць вёсцы, што «папрасьцей і панятней».

Ёсьць ужо нават і такі тэрмін. Гэта-ж для вёскі! Ёсьць нейкая сухая шаблённасьць. Калі мо' раней «Кацярына» была-б добра для вёскі, то цяпер не.

Вясковы глядач ня гэтакі, што яму можна даваць усё, што ўздумаецца. Агітак розных ён нагледзеўся.

У яго таксама ёсьць пачуцьці і перажываньні. Вёска даўно ўжо патрабуе добрай драмы ці добрай камэдыі; добрай п'есы.

**І. Д-кі.**

# НОВЫЯ КНІГІ

*Вышлі ў Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве і прысланы ў рэдакцыю для водгуку.*

**І. Гуркі.** „Новым шляхам“. П'еса ў трох дзеях. 54 стар. Цана 60 кап.

**Н. Рубакін.** «Што такое падземны агонь». 120 стар. Цана 80 кап.

**А. Круталевіч і А. Міцкевіч.** Трыгонометрыя. 212 стар. Цана 2 руб. 25 кап.

**В. Сташэўскі.** „Сьпявай, вясна“. Комэдыя ў дзьвюх дзеях. 28 стар. Цана 20 кап.

**С. Сямёнаў.** Макарка. Апавяданьне з фабрычнага жыцьця падлеткаў да Кастрычнікавай рэволюцыі. 24 стар. Цана 12 кап.

**В. Лункевіч.** Грамадзкае жыцьцё жывёл. 52 стар. Цана 50 кап.

**А. Міцкевіч і А. Круталевіч.** Асновы сьветабудовы (падручнік для тэхнікумаў і самаадукацыі. 252 стар. Цана 2 р. 50 к. у аправе—2 р. 70 кап.

**І. К. Самковіч.** Заданьні па беларускай літаратуры для V, VI і VII, кл. (з практыкі Менскай цэнтральнай дасьледчай школы. 60 стар. Цана 40 кап.

**Проф. Б. Г. Цімафееў.** Экономічная географія СССР 164 стар. Цана 80 кап.

**А. П. Пінковіч.** Асновы мэтодыкі прыродазнаўства. 238 стар. Цана 1 р. 65 кап.

---

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

**В. Галузе.** «На начлезе». Вы тут расказалі, што хлопцы пасьвілі на начлезе коні. Тутжа, пасучы коні, «недалёка ад начлежнікаў ляжаў комсамолец Рыгор». Пасьля ён заснуў, а, прачнуўшыся, даведаўся, што тут знаходзяцца амаль усе комсамольцы, назначыў на сьвітаньні сход ячэйкі. На сьвітаньні сход такі адбыўся. Рыгор адчыніў сход комсамольцаў, разам з беспартыйнай моладзьдзю. На павестцы дню стаяла: «Быт вясковай моладзі і задачы комсамолу ў галіне масавае працы». І як па гэтаму пытаньню гаварыў Рыгор прамову, дык „зазьвінелі словы як сталёвыя струны на скрыпцы»... Пасьля сходу «Рыгор і ўся комсамольская ячэйка заваявала на свой бок моладзь“. На гэтым апавяданьне канчаецца. Чаму моладзь была заваёвана? Праўда, Рыгор гаварыў, што „моладзь павінна сьледаваць прыкладу комсамольцаў, але тут ня ясна, чаму гэта яна павінна „сьледаваць“. А можа якраз і не!? Дык от-жа ўсё гэта ў апавяданьні ня ўгрунтована, не даведзена выразна, усё галаслоўна, не пададзена ў мастацкіх вобразах. Гэтак пісаць ня можна. І гэтак шмат хто піша. Не даюцца жывыя людзі, а даюцца голыя словы замест людзей. Гэты комсамолец Рыгор застаецца толькі пустым гукам, а не чалавекам, тым больш—ня новым чалавекам вёскі—комсамольцам. Няма ніводнага слова, ніводнае рыскі, якая зрабіла-б гэтых начлежнікаў жывымі людзьмі. Аўтару лепш усяго ўстрымацца на нейкі час зусім ад пісаньня.

**Сягаю.** Пра апавяданьне „Конскі вучот“. Апавяданьне гэтае слаба тым, што яно ня вытрымана скрозь у гумарыстычным кірунку. Месцамі ёсьць трапныя месцы гумару, вострыя звароты мовы, але побач з гэтым цяжкія словы (напр. „лежачы“ ў сэнсе расійскага «лежащий»), і зусім не гумарыстычны апавядальны стыль. А пачатак апавяданьня добры. І сюжэт добра аформлены ў вас. Пры належнай рэдакцыйнай апрацоўцы магчыма, будзе надрукавана. Калі ў вас ёсьць больш апавяданьні, прышлеце.

**Пралесцы.** «Пшаніца» друкавацца будзе газэце як малюнак, які практычна высьвятляе некаторыя нашы грамадзкія справы. Апавяўданьнем гэта назваць нельга, у сэнсе літаратурным. Расказваецца як дзядзька не прадаў пшаніцу ў Слуцку. Але трэба адзначыць, што ў вас вельмі цікавая мова, жывая, народная.

**Алесю Бярозцы.** Тое самае, што і папярэдняму таварышу, можна сказаць пра „Рэквізыцыю“.

**А. Жаўрыку.** Наконт апавяданьня «Дзяўчына з фабрыкі»—будзе дадзена асобным лістом.

---

*Адказны рэдактар ШУКЕВІЧ-ТРАЦЬЦЯКОЎ.*

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ НА САМУЮ ТАНЬНЕЙШУЮ Ў СССР

## СЯЛЯНСКУЮ ГАЗЭТУ

# „БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА“

## ДА КАНЦА ГОДУ

## У МАІ МЕСЯЦЫ ВЯЛІКАЯ ВЫЙГРЫШНАЯ ЛЁТАРЭЯ.

**РАЗЫГРЫВАЮЦЦА:** Адна сячкарня на 40 руб., 2 новыя драпакі, 65 плугоў, 2 новыя медныя самавары, 20 новых касаў, 20 сярпоў, 2 бібліотэчкі па 20 кніжак, 2 пары новых ботаў, 2 пары камашаў, суконны касьцюм, 2 адрэзы корту на касьцюмы, 10 жаночых хустак, 2 новых часоў, 2 хатнія аптэчкі, 5 камплектаў насеньня гародніны, 2 пакункі цукру па 20 фунтаў, 100 пудоў палепшанага насеньня, 20 завадзкіх парсят, 10 цялят і 100 прышчэпаў.

У розыгрышы прымаюць удзел усе шасьцімесячныя і гадавыя падпішчыкі „Беларускай Вёскі“, якія падпісаліся альбо падпішуцца на газэту цяпер ня менш, як на 6 месяцаў. Кожнаму будзе высланы асобны лётарэйны нумар.

Усім падпішчыкам „БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ“ да канца году будзе высланы ДАРМОВЫ ДАДАТАК—ВЯЛІКІ СЯЛЯНСКІ НАСТОЛЬНЫ КАЛЯНДАР-СПРАВАЧНІК на 1928 год

**НЕ ПАЗЬНІЦЕСЯ З ПАДПІСКАЙ—РОЗЫГРЫШ ЛЁТАРЭІ НАДЫХОДЗІЦЬ**

За 90 капеек вы атрымаеце 78 нумароў „Беларускай Вёскі“, 24 нумары „Савецкай Коопэрацыі“, 12 нумароў газэты „За грамату“, 6 нумароў „Змагайся з Цемрай“, 12 нумароў дадатку „Беларускі Пчаляр“, 6 нумароў журналу „Чырвоны Сейбіт“ і цэлы рад іншых дармовых дадаткаў.

## Умовы падпіскі на газэту „БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА“

| ВЫДАНЬНІ | 1 месяц | | 3 месяца | | 6 месяцаў | | 1 год | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Руб. | К. | Руб. | К. | Руб. | К. | Руб. | К. |
| Газэта „Беларуская Вёска“ . . | — | 15 | — | 45 | — | 90 | 1 | 80 |
| „Беларуская Вёска“ і журнал „Плуг“. | — | 30 | — | 90 | 1 | 80 | 3 | 60 |
| „Беларуская Вёска“ і журнал „Беларуская Работніца і Сялянка“ . | — | 30 | — | 90 | 1 | 80 | 3 | 60 |
| „Беларуская Вёска“ і кніжка па сельскай гаспадарцы. . . . | — | 30 | — | 90 | 1 | 80 | 3 | 60 |
| „Беларуская Вёска“ і журнал „Беларускі Піонэр“ . . . . | — | 35 | 1 | 05 | 2 | 10 | 4 | 20 |
| „Беларуская Вёска“ і жур. „Маладняк“ | — | 60 | 1 | 80 | 3 | 60 | 7 | 20 |
| „Беларуская Вёска“, журнал „Плуг“ і „Беларуск. Работніца і Сялянка“ | — | 45 | 1 | 35 | 2 | 70 | 5 | 40 |
| „Беларуская Вёска“, журнал „Плуг“, „Беларуск. Работніца і Сялянка“, „Бел. Піонэр“ і кніжка па сельск. гаспадарцы. . . . . | — | 80 | 2 | 40 | 4 | 80 | 9 | 60 |

**УВАГА:** журналы „Плуг“ і „Беларускі Піонэр“ паасобку на месяц каштуюць па 20 кап., „Бел. Работніца і Сялянка“ і кніжка па сельскай гаспадарцы каштуюць па 15 кап. у месяц, „Маладняк“—50 кап.

1-ая друкарня БДВ. Заказ № 2.435. У ліку 40000 экз. Галоўлітбел № 304.